ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№12 (141) снежань 2022 год

CATHOLICNEWS.BY

## “Давяраю Табе, Бог мой, Твая Маці мяне вядзе”. Шчырая размова з Вольгай Хілько


Стар. 7

## З клопатам пра птушак. Незвычайная ініцыятыва на тэрыторыі касцёла ў Віцебску


Стар. 9

**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя людзі добрай волі!**

“І нарадзіла Сына свайго першароднага. Спавіла Яго і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе” (Лк 2,7).

Такім простым сказам, радасным і адначасова сумным, перадае Святое Пісанне праўду пра выключную ў гісторыі падзею – нараджэнне Божага Сына. Радасным, бо нарадзіўся Першынец, Той, на Якім споўніліся старадаўнія прароцтвы, і Які стане пераможцам граху і смерці. Сумным, бо застаўся непажаданым, адкінутым тымі, дзеля каго прыйшоў у гэты свет, дзеля каго прынізіў сябе як Бог, стаўшы Сынам Чалавечым.

Аднак не ўсё было так кепска. Бо Нованароджанага Збаўцу саграvала любоў Яго Матулі, апека Яе мужа, і Яго абранага бацькі. Здзіўленне і радасць пастушкоў – простых людзей вялікага сэрца – і прыгожыя спевы Анёльскага войска разам са зззяннем Бэтлеемскай зоркі. З году ў год мы не проста ўзгадваем гэтую падзею. Насамрэч мы яе перажываем! Бо Бог ёсць вечны і Яго нараджэнне трывае няспынна!

Ён нараджаецца там, дзе з верай прымаюць Ягонае Слова. У кожнай людской душы, якая не закрывае сябе для духоўных каштоўнасцей і не баіцца быць чулай на патрэбы бедных і абяздоленых. Там нараджаецца Бог. Знакам таму ёсць спакой і любоў “доўгацярплівая, ласкавая, якая не зайздросціць..., не шукае свайго, не гневаецца, не памятае зла, не радуецца несправядлівасці, але радуецца разам з праўдай, усё зносіць, усяму (Божаму) верыць, на ўсё спадзяецца. (пар: 1 Кар 13, 4-7).

Такой любові і спакою хачу пажадаць Вам, дарагія браты і сёстры, асабліва цяпер, у наш неспакойны час, які патрабуе аднаго: адкрытых людскіх сэрцаў



на Божае Слова, гатовых стацца Яго калыскай, гатовых прыняць Яго Праўду, Яго Жыццё і ісці Яго Шляхам. Гатовых паверыць у Ягоную моц, што не толькі аказвае міласэрнасць, але і ўсталёўвае канчатковую справядлівасць.

Няхай ззянне ўпрыгожаных елак нагадвае нам пра святло Бэтлеемскай зоркі, якое паказала шлях да Хрыста тром Мудрацам, каб і нам адкрылася тая Божая мудрасць, каторая гэты свет стварыла, і мае моц гэты свет уратаваць. А ўзнёслае гучанне калядных спеваў няхай напоўніць Вашыя сэрцы надзеяй і радасцю, якую толькі можа даць прысутнасць Нованароджанага Збаўцы!

Бласлаўлёнага Нараджэння Хрыстовага і шчаслівага Новага 2023 года!

***+ Алег Буткевіч***
***Біскуп Віцебскі***





## Наш падпісны індэкс – 63783

**Кошт падпіскі**
**на месяц – 1,60 руб.**
**на 3 мес – 4,80 руб.**
**на 6 мес – 9,70 руб.**

Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”

## Што вы думаеце пра адкрыццё кантэмпляцыйнага кляштара ў Беларусі?*




- Я б вельмі хацеў, каб у Беларусі быў такі – 51 адказ;
- Мне здаецца, што дастаткова звычайных кляштараў – 14 адказаў
- А што гэта такое? – 3 адказы
- Не бачу сэнсу ў такім кляштары – 1 адказ

Усяго – 68 апытаных

Апытанне праводзілася на сайце Catholicnews.by, у сацсетках ВКонтакте, Facebook і Аднакласнікі.

*Кантэмпляцыйны (кляўзуровы) кляштар – закрыты мужчынскі або жаночы манастыр, дзе манахі або манахіні прысвячаюць сваё жыццё толькі малітве. Доступ у якасці наведвальнікаў для звычайных людзей ў такі кляштар закрыты. Чальцы манаскай супольнасці таксама не выходзяць з кляштара ў свет.

# Пантыфік даў інтэрв'ю амерыканскаму езуіцкаму часопісу

**Папа Францішак даў інтэрв'ю амерыканскаму езуіцкаму часопісу "America", падчас якога адказаў на пытанні, што тычыліся шырокага спектру праблем: ад ролі жанчын у Касцёле да вайны ва Украіне.**



У цэнтры размовы Папы з журналістамі, якая адбылася 22 лістапада ў Ватыкане, была сітуацыя каталіцкай супольнасці ў ЗША. Пантыфік выказаў занепакоенасць палярызацыяй пастыраў і чальцоў Касцёла і пажадаў, каб падзел быў як мага хутчэй пераадолены. Ён нагадаў, што святары і біскупы з'яўляюцца пастырамі, а не палітыкамі, а таксама папярэдзіў амерыканцаў пра небяспеку падзелаў на ідэалагічныя лагеры, што шкодзіць як грамадству, так і Касцёлу ў прыватнасці.

У ходзе гутаркі закранялася і праблема расізму ў амерыканскім грамадстве. "Я хацеў бы сказаць афраамерыканскім католікам, што Папа ведае пра іх пакуты, што ён іх вельмі любіць", – падкрэсліў Францішак, дадаючы, што "расізм – гэта недапушчальны грэх супраць Бога".

Адносна вайны ва Украіне Папа Францішак паўтарыў, што Святы Пасад гатовы выступіць пасярэднікам, калі пра гэта папросяць. У адказ на крытыку, якую ён атрымаў за тое, што не асуджаў непасрэдна Уладзіміра Пуціна, Папа патлумачыў: "Чаму я не называю імя Пуціна? Таму што гэта не абавязкова. Усім вядомая мая пазіцыя, якая не залежыць ад таго, ці назаву я Пуціна па імені ці не".

Святы Айцец пракаментаваў таксама абвінавачванні ў маўчанні адносна парушэння правоў чалавека ў гэтай краіне, дзеля падтрымання адносін з Кітайскай Народнай Рэспублікай. "Справа не ў тым, каб гаварыць ці маўчаць. Справа ў тым, ці весці дыялог ці не. А дыялог вядзецца да таго пункту, да якога его весці магчыма", – сказаў ён.

Пантыфік падзяліўся думкамі пра ролю жанчын у Касцёле. "Касцёл – гэта больш, чым тыя, хто выконвае святарскае служэнне. Касцёл – гэта ўвесь народ Божы. Касцёл – гэта жанчына. Касцёл – нявеста. І гэта ўздымае годнасць кожнай жанчыны", – зазначыў ён.

Нарэшце, абмяркоўвалася таксама стаўленне Папы да эканамічных працэсаў, якія адбываюцца ў свеце. Ён сказаў, што, калі гаворыць на гэтыя тэмы, імкнецца кіравацца Евангеллем, у прыватнасці благаслаўленнямі і словамі з 25-га раздзела Евангелля ад Мацвея, дзе Езус кажа, што прысутнічае ў галодным, прагнучым, хворым, вязню... Францішак заўважыў, што клапаціцца пра гэтых людзей – гэта не камунізм, а хрысціянская пазіцыя.

# Падзеі ў Паўднёвым Судане сталі прычынай занепакоенасці Папы

**Папа Францішак сур'ёзна занепакоены сітуацыяй у Паўднёвым Судане. Тут у жніўні пачалася новая фаза канфлікту, баі актывізаваліся ў апошнія тыдні.**

"Я з болем і трывогай сачу за навінамі, якія прыходзяць з Паўднёвага Судана пра жорсткія сутыкненні апошніх дзён. Мы молімся да Бога аб міры і нацыянальнай згодзе, каб спыніліся напады, а мірным жыхарам заўсёды была гарантавана павага", – заклікаў Папа вернікаў, якія 11 снежня сабраліся на ватыканскай плошчы.

Канфлікт, які разгарэўся ў жніўні і праходзіць з ужываннем у тым ліку і цяжкай зброі, закранае штат Верхні Ніл, што мяжуе з Суданам і Эфіопіяй, а таксама штаты Джонглі і Юніці. Ён выкліканы спрэчкамі адносна тэрыторый і доступу да вады. У выніку апошніх баёў, якія пачаліся ў сярэдзіне лістапада, колькасць уцекачоў, паводле Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, складзе не менш за 9 тысяч, у асноўным – гэта жанчыны і дзеці. Многія з іх "відавочна траўмаваныя", яны паведамляюць пра забойствы, гендарны гвалт, выкраданне людзей і вымагальніцтва.

З 2013 года, праз два гады пасля атрымання незалежнасці ад Судана, у краіне пачаўся ўзброены канфлікт паміж войскамі, вернымі прэзідэнту Салва Кііру, і паўстанцамі, лідарам якіх стаў Рыек Мачар. Мірнае пагадненне, падпісанае ў 2018 годзе, у цяперашні час дзейнічае, але рэалізуецца складана. На сённяшні дзень, па некаторых ацэнках, у канфлікце ўжо загінула каля 400 тысяч чалавек. Выбары, якія неаднаразова пераносіліся, запланаваны на канец 2024 года.

Нагадаем, што Папа збіраецца наведаць Паўднёвы Судан з апостальскім візітам. Паездка ў Джубу афіцыйна анансавана на 3-4 лютага 2023 года.




*Старонкі 2 і 3 падрыхтаваныя па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*




Кніга "Энцыкліка аб міры ва Украіне"

# Святы Айцец: без міру мы ўсе пераможаныя

**Пантыфік напісаў прадмову да зборніка яго публічных выказванняў адносна вайны ва Украіне. Кніга выйдзе пад назвай "Энцыкліка аб міры ва Украіне" (Un'enciclica sulla pace in Ucraina). 5 снежня італьянскае выданне Il Fatto Quotidiano апублікавала ўступны тэкст Святога Айца.**

"Чаму пасля драматычных гадоў пандэміі, калі не без вялікіх цяжкасцей і шматлікіх трагедый мы выходзілі з самай вострай фазы, надышоў жах гэтага бессэнсоўнага і блюзнерскага канфлікту, які з'яўляецца кожная вайна? Ці можна з упэўненасцю казаць пра справядлівую вайну? Ці можна з упэўненасцю казаць пра святарную вайну?" – спытаў Папа.

Папа Францішак падкрэсліў, што Божыя людзі, якія абвяшчаюць Евангелле Уваскрослага, абавязаны гучна абвяшчаць праўду веры пра тое, што "Бог – гэта Бог міру, любові і надзеі, Бог, Які хоча, каб мы ўсе былі братамі, як навучыў нас Яго Сын Езус Хрыстус". "Жахі вайны, кожнай вайны, абражаюць найсвяцейшае імя Бога, і яшчэ больш абражаюць Яго, калі Яго імем злоўжываюць, каб апраўдаць гэтую невымоўную бойню", – падкрэсліў ён.

Святы Айцец заўважыў, што "плач дзяцей, жанчын і мужчын, параненых вайной, узносіцца да Бога як моцная малітва за сэрца Айца". "Колькі яшчэ трагедый нам трэба будзе ўбачыць, перш чым усе, хто ўдзельнічае ў кожнай вайне, зразумеюць, што яна з'яўляецца выключна шляхам смерці, які толькі ў нямногіх стварае ілюзію, што яны пераможцы? Няхай будзе ясна: з вайной мы ўсе пераможаныя! Нават тыя, хто ў ёй не ўдзельнічаў і хто з баязлівай абыякавасцю стаяў побач і назіраў за гэтым жахам, не ўмешваючыся, каб прынесці мір", – напісаў Папа.

Святы Айцец падкрэсліў, што ўсе без выключэння маюць абавязак "быць людзьмі міру" і "ніхто не мае права глядзець у іншы бок". Ён папярэдзіў, што "ў гэтым глабалізаваным свеце мы ўпалі ў глабалізацыю абыякавасці" і прызвычаіліся да пакут іншых, якія больш не кранаюць і не цікавяць нас.

Папа Францішак нагадаў словы Пія XII, які напярэдадні Другой сусветнай вайны казаў: "Нішто не страчана з мірам. Усё можа быць страчана з вайной. Няхай людзі зноў пачнуць разумець адно аднаго. Няхай адновяць перамовы. Няхай, вядучы перамовы з добрай воляй і з павагай да правоў адно аднаго, яны зразумеюць, што шчырыя і эфектыўныя перамовы ніколі не будуць пазбаўлены пачэснага поспеху".

Папа падзякаваў аўтару зборніка Франчэска Антонія Грана за тое, што ён сабраў усе яго заклікі аб міры ва Украіне. "Я не менш удзячны вашаму выданню ilfattoquotidiano.it, таму што з самага пачатку гэтага канфлікту яно заўсёды давала шырокі рэзананс гэтым маім словам. Я таксама ўдзячны многім іншым мужчынам і жанчынам, якія сталі носьбітамі гэтага паслання, часта канкрэтным чынам і ў цішыні", – дадаў ён.

Святы Айцец заўважыў, што кніга ўтрымлівае на сваіх старонках тое, што ў гэтыя месяцы вайны зыходзіла з яго сэрца, калі ён бачыў "вобразы велізарнай трагедыі і чытаў жудасныя навіны і пра многія іншыя канфлікты ў свеце, пра якія занадта часта забываюцца". "Своеасаблівы ваенны дзённік, які я прапаную чытачам у надзеі, што вельмі хутка ён стане дзённікам міру і, перш за ўсё, перасцярогай для ўсіх, каб больш не паўтараць падобных жахаў. Гэта сапраўдная энцыкліка пра мір ва Украіне і ў любой іншай частцы свету", – канстатаваў Папа Францішак.

"Пакуль мы працягваем настойліва маліцца за мір ва Украіне, па-сапраўднаму, не стамляючыся, мы не павінны прызвычайвацца да гэтай вайны, як да любой іншай. Мы не павінны дапусціць, каб нашы сэрцы і розум аслаблі перад абліччам паўтарэння гэтых вельмі сур'ёзных жахаў, накіраваных супраць Бога і чалавека. Мы ні па якой прычыне не павінны прызвычайвацца да ўсяго гэтага, прымаючы як належнае тую фрагментарную трэцюю сусветную вайну, якая на нашых вачах драматычна ператварылася ў татальную Трэцюю сусветную вайну", – напісаў Папа.

"Будзем маліцца за мір! Будзем працаваць дзеля міру! Упэўнены, што Пан Езус, Валадар супакою, падорыць Украіне і ўсяму свету, асабліва там, дзе яшчэ трывае так шмат ачагоў вайны, світанак Велікоднай раніцы", – завяршыў сваю прадмову Пантыфік.

# Папа Францішак: нават у цёмныя часы Бог кіруе ходам гісторыі

**Увечары 12 снежня Папа прыняў удзел у традыцыйнай Імшы з нагоды свята Маці Божай Гвадэлупскай, апякункі Лацінскай Амерыкі, і звярнуўся да вернікаў з гаміліяй.**

Пантыфік адзначыў, што ва ўсе часы Бог кіруе ходам гісторыі чалавецтва, "нішто не застаецца па-за Яго ўладай, якая з'яўляецца пяшчотай і правідэнцыяльнай любоўю. Ён выяўляецца нам праз жэст, падзею, чалавека. Ён заўсёды пазірае на наш свет, які жыве ў нястачы, паранены, трывожны, каб дапамагчы яму сваім спачуваннем і міласэрнасцю. Яго спосаб збаўчага ўмяшальніцтва заўсёды здзіўляе нас і напаўняе радасцю". Пасланне да Галатаў дае дакладнае ўказанне на Яго задуму зрабіць нас сваімі прыёмнымі дзецьмі: "Калі надышла паўната часу, паслаў Бог Сына свайго, народжанага ад жанчыны" (Гал 4, 4).

Па словах Папы, "прышэсце Сына ў плоці чалавечай з'яўляецца вышэйшым выразам Боскага метаду выратавання". Бог, Які так палюбіў свет, паслаў да нас свайго Сына, "народжанага ад жанчыны", "каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16). Такім чынам, у Езусе, народжаным ад Марыі, Пан уваходзіць у нашы ненадзейны час, ідзе побач з намі як брат і спадарожнік. Ён прыйшоў, каб застацца. Ён падобны да "аднаго з нас", блізкага чалавека, сябра, роўнага нам ва ўсім, акрамя граху.

Нешта падобнае, – адзначыў Папа, – адбылося амаль пяць стагоддзяў таму, у складаны і цяжкі для жыхароў Новага Свету час. Пан захацеўператварыць узрушэнне, якое выклікала сустрэча двух розных светаў, у новы сэнс і годнасць. Ён зрабіў гэта, адправіўшы Марыю, сваю Маці, такім жа чынам, як нагадвае нам Евангелле: "Марыя ў тыя дні паспяшыла ў горную краіну" (Лк 1, 39). Маці Божая Гвадэлупская прыйшла на благаслаўлёныя землі Амерыкі, каб суцяшаць і задавальняць патрэбы самых малых, не выключаючы нікога, каб агарнуць іх, як клапатлівая Маці, сваёй прысутнасцю, любоўю і суцяшэннем.

"Сёлета, нагадаў Пантыфік, святкаванне Маці Божай Гвадэлупскай адбываецца ў цяжкі для чалавецтва час. Гэта горкі час, напоўнены грукатам вайны, несправядлівасцю, голадам, беднасцю, пакутамі." І хоць гэты гарызонт здаецца змрочным і ашаламляльным, тым не менш Боская вера, любоў і спагадлівасць вучаць нас, што гэты час "спрыяльны для выратавання, калі Пан праз Дзеву Марыю працягвае дарыць нам Свайго Сына, Які заклікае нас быць братамі, адкінуць эгаізм, абыякавасць і антаганізм, запрашаючы нас паспяшацца і ўзяць на сябе адказнасць адно за аднаго, ісці насустрач братам і сёстрам, забытым і адрынутым нашымі спажывецкімі і апатычнымі грамадствамі".


Падчас Імшы з нагоды свята Маці Божай Гвадэлупскай у Ватыкане (Vatican Media)

"Сёння, як і ўчора, Маці Божая Гвадэлупская хоча сустрэцца з намі, як аднойчы Яна сустрэлася з Хуанам Дыега на ўзгорку Тэпеяк. Яна хоча застацца з намі. Яна моліць нас дазволіць Ёй стаць нашай Маці, адкрыць наша жыццё свайму Сыну Езусу і прывітаць Яго пасланне, каб навучыцца любіць, як Ён", – сказаў Святы Айцец. Яна прыйшла, каб суправаджаць амерыканскі народ на нялёгкім шляху беднасці, эксплуатацыі, сацыяльна-эканамічнага і культурнага каланіялізму. Яна сярод тых, хто ў пошуках свабоды ідзе на поўнач. Яна з лацінаамерыканскім народам, якому пагражае "дзікае і эксплуататарскае паганства", з народам, "параненым актыўнай прапаведдзю практычнага і прагматычнага атэізму". Яна там. "Я твая Маці", – кажа Яна. Маці любові, дзеля якой жывуць.

Пантыфік адзначыў, што 12 снежня на амерыканскім кантыненце распачаўся міжкантынентальны шлях падрыхтоўкі да святкавання 500-годдзя Маці Божай Гвадэлупскай у 2031 годзе.

***Марыя Валодзіна***

# Патыфік просіць пра амністыю для вязняў у сувязі з Божым Нараджэннем



**Святы Айцец даслаў кіраўнікам дзяржаў віншаванні з Божым Нараджэннем, просячы іх праявіць літасць да людзей, якія знаходзяцца ў турмах.**

"У сувязі з набліжэннем Божага Нараджэння Папа Францішак скіраваў ліст да ўсіх кіраўнікоў дзяржаў, заклікаючы іх праявіць літасць да тых братоў і сясцёр, пазбаўленых свабоды, якія, па іх меркаванні, могуць скарыстацца такой мерай, каб гэты час – пазначаны напружанасцю, несправядлівасцю і канфліктамі – адкрыўся на ласку, што паходзіць ад Пана", – гаворыцца ў паведамленні, якое 12 снежня абнародавала Зала Друку Апостальскай Сталіцы.

У 2000 годзе да такога рашэння заклікаў палітычных лідараў святы Ян Павел ІІ. Яго ініцыятыва была прымеркаваная да Юбілейнага года і знайшла адлюстраванне на старонках асобнага папскага дакумента пад назвай "Юбілей у турмах". Пантыфік апублікаваў яго праз тыдзень пасля візіту ў рымскую турму Regina Coeli, дзе прасіў кампетэнтныя ўлады скараціць тэрмін пакарання зняволеным, каб даць ім магчымасць пачаць новае жыццё па-за турэмнымі мурамі. У 2002 годзе Ян Павел ІІ паўтарыў свой заклік падчас афіцыйнага візіту ў італьянскі парламент.

Папа Францішак часта звяртае ўвагу на сітуацыю з вязнямі. Адным з традыцыйных жэстаў яго пантыфікату стала наведванне турмаў і малітва з вязнямі ў Вялікі чацвер. Падчас Юбілею Міласэрнасці, у лістападзе 2016 года, Пантыфік узначаліў цэлебрацыю святой Імшы ў ватыканскай базыліцы, у якой бралі ўдзел сотні людзей, якія адбывалі пакаранне ў турмах. Тады ён таксама заклікаў кіраўнікоў дзяржаў аб'явіць амністыю для зняволеных, якія, на іх думку, могуць скарыстацца гэтай мерай.

***Аляксандр Панчанка***

# Папа Франциск поедет в Африку

**Папа Франциск совершит ранее отложенный апостольский визит в Демократическую Республику Конго и Южный Судан с 31 января по 5 февраля 2023 года, сообщает Зал печати Ватикана. В южносуданской столице Святейшего Отца будут сопровождать архиепископ Кентерберийский и модератор Генеральной ассамблеи Церкви Шотландии.**

Вначале июля 2022 года Епископ Рима планировал посетить эти две африканские страны "как паломник мира и примирения", но в июне – в обращении в африканским верующим – выразил глубокое сожаление о том, что по состоянию здоровья он вынужден отложить "этот столь желанный и долгожданный визит" и призвал не терять надежды на скорейшую встречу.

По сообщению Зала печати Ватикана, 31 января 2023 года Папа отправится в столицу Демократической Республики Конго Киншасу, где по прибытии встретится с президентом страны, представителями властей, гражданского общества и дипломатического корпуса. На следующий день, утром 1 февраля, он совершит Святую Мессу в столичном аэропорту. Во второй половине дня в апостольской нунциатуре состоятся две встречи: с пострадавшими от вооружённого насилия, которые прибудут с востока страны, и с делегатами гуманитарных организаций. На следующий день, 2 февраля, Епископ Рима пообщается с молодёжью, катехизаторами, а затем возглавит молебен с участием духовенства, монашествующих и семинаристов. В конце дня Святейший Отец побеседует в частном порядке с собратьями из Общества Иисуса.

Утром 3 февраля Папа встретится с поместным епископатом, после чего направится из аэропорта Киншасы в столицу Южного Судана. В городе Джуба – после приветственной церемонии – состоится визит вежливости к президенту Республики. Последует встреча с представителями власти, гражданского общества и дипломатического корпуса. Утром следующего дня Папа встретится с южносуданским духовенством и пообщается в частном порядке с членами Общества Иисусова. На вторую половину дня запланирована встреча с внутренними переселенцами и экуменический молебен. Утром 5 февраля, в день отъезда, Папа Франциск совершит Святую Мессу в мавзолее Джона Гаранга. Прибытие в римский международный аэропорт Фьюмичино запланировано на 17 часов 30 минут.

***Виктор Владимиров,***
*русская редакция Vatican News*


Онлайн-встреча Папы Франциска с африканскими студентами (1 ноября 2022 г.)

*Кс. Аляксандр Жарнасек, MIC*
*viartannie.org*

# Старыя і новыя мяхі

***(Працяг. Пачатак – у папярэднім нумары)***

**Абнаўленне розуму**

Езус у прыпавесці пра сейбіта кажа, што калі мы не разумеем слова, то прыходзіць вораг і вырывае пасеенае Богам. Менавіта таму, паколькі абнаўленне павінна датычыць не толькі знешняй формы пабожнасці, а ўсяго чалавека, мы павінны разумець агромністае значэнне абнаўлення нашага розуму, нашага мыслення.

*І не дастасоўвайцеся да гэтага веку, але перамяняйцеся праз абнаўленне розуму, каб вы пазналі, якая воля Божая, што добрае, прыемнае і дасканалае (Рым 12,2).*

Нам трэба абнавіць наш розум, каб пазнаць, што думае наш Бог. Апостал Павел піша: каго мы слухаем, таго мы і рабы (Рым 6,16-17). На наш розум уплывае наша гісторыя, сям'я і продкі, асяроддзе, гэты свет, культура, мода і г.д. Мы слухаем усе гэтыя галасы. Часта нават не задумваемся, адкуль у нас такія ці іншыя думкі, погляды, прагненні, мары. Часта мы наіўна думаем, што ўсё гэта наша, а насамрэч вельмі часта гэта чужы голас, які мы свядома або несвядома слухалі, прынялі, якому паверылі. У большасці мы не задумваемся пра тое, наколькі мы залежныя. Многія палітычныя рэжымы, такія як фашызм ці камунізм, лічылі галоўнай мэтай пананне над розумам чалавека. Але панаваць над розумам чалавека найперш хоча князь гэтага свету – сатана. Паверце, што гэта вельмі сур'ёзная тэма! І ў выніку гэтых шматлікіх варожых галасоў у нашым розуме і памяці мы становімся нібы чужымі перад Богам, мы пачынаем не разумець, што думае наш Стваральнік і Збаўца. Гэта духоўная бітва за чалавечы розум і сэрца ідзе ад самага пачатку грэхападзення.

*Ищите Господа, когда можно найти Его; призывайте Его, когда Он близко. Да оставит нечестивый путь свой и беззаконник – помыслы свои, и да обратится к Господу, и Он помилует его, и к Богу нашему, ибо Он многомилостив. Мои мысли – не ваши мысли, ни ваши пути – пути Мои, говорит Господь. Но как небо выше земли, так пути Мои выше путей ваших, и мысли Мои выше мыслей ваших (Іс 55,6-9).*

Скарыць свой разум перад Богам, пачаць думаць так, як думае Ён – гэта цэлы духоўны працэс, каб зразумець, як думае Бог.

*Цялесны ж чалавек не прымае таго, што ад Духа Божага. Бо гэта для яго глупства, і ён не можа спазнаць, таму што гэта разумеюць духоўна. А духоўны чалавек можа разважаць пра ўсё, пра яго ж не можа разважаць ніхто. Бо хто пазнаў розум Пана, каб павучаць Яго? Мы ж маем розум Хрыстовы (1 Кар 2,14-16).*

Пазнаваць, што думае Госпад, ачышчаць свой розум ад чужых галасоў і падпарадкоўваць яго Божым думкам – гэта вельмі прыгожы этап духоўнага жыцця, які патрабуе адпаведнага намагання. Як гэта адбываецца? Найперш праз глыбокае пазнаванне Бібліі, разважанне над Божым словам і праз малітву. Таксама вельмі важныя ўласны духоўны вопыт і досвед іншых. Аднак тут трэба быць вельмі асцярожным, таму што тое, што Бог паказваў некаму, яшчэ не азначае, што гэта трэба табе, або што гэты нехта не памыляўся. Часам духоўны вопыт іншых можа нам нават перашкаджаць. Таксама наш духоўны вопыт можа быць ілжывым, паколькі на наш розум і дух уплывае не толькі Бог, але і нашыя эмоцыі, і злы дух. Тут трэба шмат пакоры, асцярожнасці, трэба мець страх Божы, павінна быць паслядоўнасць, адпаведныя крокі ў духоўным жыцці. Думаю, вельмі трапнымі будуць тут словы Носкава: "Не осуждай меня, Господь, за то, что Именем Твоим я называл совсем иное". Канечне, хацелася б нам мець матэматычную ўпэўненасць у духоўным доследзе, але Богу больш даспадобы шалёная вера Абрагама.

**Бог думае не так, як чалавек...**

Працягваючы разважаць над абнаўленнем розуму, хачу падзяліцца некаторымі прыкладамі, якія паказалі мне, што Бог сапраўды не думае так, як думаем мы. Гаворка пойдзе пра мой духоўны досвед, які вынікае з пэўных перажытых гісторый. І таму я прымаю іх з верай, але гэта не азначае, што і ўсе таксама абавязаныя верыць.

На сённяшні дзень сямейная тэматыка вельмі важная для Бога. У сям'і перадаецца вера. Ад сям'і залежыць будучыня грамадства і Касцёла. На жаль, многія хрысціяне не маюць прыкладаў, што значыць быць мужам і жонкай, татам і мамай згодна з Божым замыслам. Многія маладыя вернікі да шлюбу маюць сексуальны вопыт не таму, што яны такія дрэнныя, а таму, што ніхто іх у сям'і не падрыхтаваў да выхаду ў свет. Часта мы чуем у Касцёле пра клопат аб манаскіх і святарскіх пакліканнях, а сямейная тэматыка, на жаль, мала абмяркоўваецца. Як правіла, яна ўзнікае тады, калі пачынаюцца праблемы. Гэтая тэма проста ляжыць аблогам, і яна адна з самых гарачых перад Богам.

Сёння назіраецца вялікая зацікаўленасць псіхалогіяй. Не хачу памяншаць яе ролі, але Бог паказваў мне, што многія пытанні, якімі займаецца псіхалогія, належаць да духоўнай сферы, і таму людзі часта безвынікова шукаюць адказы на свае праблемы.

Я зразумеў, што ў пілігрымцы найбольш важны той чалавек, з якім ты ідзеш, нават больш, чым тое, куды ідзеш і што спяваеш. Таму часта мае значэнне сам факт, што людзі ідуць, моляцца, разважаюць над Божым словам, спяваюць, размаўляюць. Але, разам з тым, у Бога ёсць паняцце святасці і намоленасці месца. Бог даў мне зразумець, што такімі месцамі з'яўляюцца Росіца і Орша. Паверце, гэтае разуменне вынікае не з таго, што я працую ў Оршы і не з-за майго марыянскага "патрыятызму" да Росіцы. Мае чалавечыя думкі ў гэтым плане вельмі нават адрозніваліся ад Божых.

Не разумею чаму, але для Бога і надалей важна, каб у нейкім месцы стаяла святыня. Гэта часам пярэчыць чалавечай логіцы, асабліва калі няма, здавалася б, вялікай душпастырскай патрэбы.

Нельга кідацца ратаваць усіх, хто просіць дапамогі. Для Бога важнае сэрца чалавека – ці ён шукае Яго, ці перажывае пакаянне, ці спрабуе нешта з сабой рабіць. Таму не з усімі трэба сустракацца і не за ўсіх маліцца. Часта гэта вельмі некамфортна – па-чалавечы спрабаваць тлумачыць, чаму ты не можаш чалавеку дапамагчы. Бог вучыў мяне маліцца найперш не паводле просьбы чалавека, а каб тое, што Божае, стала на першае месца (бо часам просьбы не кепскія, але яны выключна чалавечыя).

Малітва і Божае слова ў многіх выпадках нашмат больш важныя для Бога, чым наша знешняя актыўнасць. Мне Бог паказваў, што, калі я мала разважаю над Божым словам і менш малюся, я слабну духоўна і наступствы становяцца адчувальнымі. Сіла Божага слова не толькі ў ведах. У ім ёсць духоўная сіла, Божая прысутнасць. Асабіста мне гэта нават цяжкавата зразумець па-чалавечы, таму што хочацца думаць, што наша знешняя актыўнасць прыносіць больш вынікаў.



**Не праведнасць, а давер да добрага Айца**

Адзін з важных момантаў абнаўлення нашага мыслення – гэта разуменне праўды, што перад Ім мы не можам выслужыцца, улагодзіць Яго, ураtаваць саміх сябе... Гэта вельмі распаўсюджаная памылка. Бог патрабуе веры, а нам усё хочацца нешта Яму даказаць. А што датычыцца веры, то пра яе мы дбаем няшмат – усё шукаем упэўненасці. Езус кажа ў размове з Нікадэмам: "Дух вее, дзе хоча, і не ведаеш, куды ідзе". Абнаўленне дае давер Богу і здольнасць рызыкаваць.

Некалі мне наіўна здавалася, што верыць Богу проста. Аказалася, што для веры патрэбнае ўнутранае абнаўленне. Верыць не толькі ў існаванне Бога, але верыць Богу як добраму Айцу можна толькі ў Духу Святым. Многія не могуць прыняць гэтага. Яны пачалавечы думаюць, што Ён суровы, пакарае, не клапоціцца пра нас, не прабачыць. Гэтыя сцены няверы можна адолець толькі сілай Святога Духа, а не рэлігійнымі тэхнікамі і чалавечымі разважаннямі. У адной гісторыі Бог неяк паказваў мне: гавары ёй толькі пра любоў Бога і нічога больш, бо без гэтага яна больш нічога не пачуе і не будзе здольная прыняць.

## Перашкоды абнаўлення

**Неразуменне таго, што Бог чыніць усё новае**

Гэта вельмі важна прыняць для нашай тэмы. Таму асаблівым чынам кладу на гэта націск. Абнаўляць нашыя "старыя мяхі" трэба не для таго, каб дайсці да хрысціянскага ідэалу або стацца бязгрэшным. Вельмі хачу, каб мы зараз не ўвайшлі ў маралізатарства і духоўную "самашліфоўку". Абнаўленне павінна быць, таму што Бог прыносіць "новае віно", Ён стварае ўсё новае, а мы павінны быць гатовыя да гэтага Божага плану, які робіць усё новае.

Той, хто сядзеў на троне, сказаў: "Вось чыню ўсё новае". І дадаў: "Напішы, што словы гэтыя верныя і праўдзівыя" (Ап 21,5).

Гэтыя словы з Апакаліпсіса паказваюць нам характар Бога і Яго прыроду. Ён увесь час стварае. Многія багасловы ўжываюць паняцце, што Бог надалей нараджае. Гэта бясконцы працэс. Нам трэба быць да гэтага гатовымі. Мы сустракаемся з тымі рэчамі, якіх раней не было. Езус распавядае нам пра новую дзяржаву, якая называецца Божым Валадарствам. Прарок Ісая кажа, што ў гэтай дзяржаве будзе супакой, не будзе войнаў, агрэсіі, фізічная праца заўсёды будзе даваць бачныя вынікі, будзе даўгалецце, а супакой будзе такі, што нават жывёльны свет не будзе мець агрэсіі: "Ибо вот, Я творю новое небо и новую землю, и прежние уже не будут воспоминаемы и не придут на сердце. А вы будете веселиться и радоваться вовеки о том, что Я творю: ибо вот, Я творю Иерусалим веселием и народ его радостью. И буду радоваться о Иерусалиме и веселиться о народе Моем; и не услышится в нем более голос плача и голос вопля. Там не будет более малолетнего и старца, который не достигал бы полноты дней своих; ибо столетний будет умирать юношею, но столетний грешник будет проклинаем. И будут строить ⇒







⇐ домы и жить в них, и насаждать виноградники и есть плоды их. Не будут строить, чтобы другой жил, не будут насаждать, чтобы другой ел; ибо дни народа Моего будут, как дни дерева, и избранные Мои долго будут пользоваться изделием рук своих. Не будут трудиться напрасно и рождать детей на горе; ибо будут семенем, благословенным от Господа, и потомки их с ними. И будет, прежде нежели они воззовут, Я отвечу; они еще будут говорить, и Я уже услышу. Волк и ягненок будут пастись вместе, и лев, как вол, будет есть солому, а для змея прах будет пищею: они не будут причинять зла и вреда на всей святой горе Моей, говорит Господь" (Іс 65,17-25).

Рыхтуючыся да мінулага курса "Эмаус", я звярнуў увагу на тое, як апостал Павел цытуе Стары Запавет, тлумачачы дар моваў (1 Кар 14). Але гэтая цытата няшмат даказвае, яна тычыцца зусім іншай тэмы. Усё проста. Справа ў тым, што ў Старым Запавеце не было дару моваў, Дух Святы так сябе яшчэ не праяўляў. Не было ўваскрасення, не было перамянення на гары Табор, не было Зачацця без удзелу мужчыны, не было мэтанакіраванай евангелізацыі паганскіх народаў. Уявіце, што было б, калі б апосталы не былі здольныя прыняць таго новага, што прынёс ім Езус!

Езус прыносіць шмат новага: адмяняе разводныя лісты, адмяняе права кроўнай помсты, адмяняе клятвы, за Ім ходзяць жанчыны (і гэта не стыль хіпі). Ён есць з мытнікамі, дазваляе дакранацца да сябе блудніцам, ідзе да самаранаў і паганаў, блаславляе дзяцей, прыносіць Новы Запавет (гл. Габр 8,7-13). Мы сёння не звяртаем на гэтыя рэчы ўвагі, але для многіх габрэяў усё гэта вяла такім мадэрнізмам і лібералізмам, што яны ненавідзелі Хрыста. Ім здавалася, што праз гэтае "новае" Ён нішчыць іх веру.

Аднойчы я пачуў фразу: "У гэтым свеце Духа Святога ўсё больш і больш". Думаю, што гэта праўда. І гэта нягледзячы на тое, што наш свет грэшны цяпер, як, магчыма, ніколі раней. Гаворка тут не пра тое, што свет становіцца больш праведным і годным дзеяння Бога. Не, так не выглядае. Але Бог робіць усё новае, усё больш і больш.

Калі мы не разумеем гэтага творчага характару Бога, калі не гатовыя да зменаў у грамадстве, у народзе, у нашым асабістым жыцці, то мы не зможам прыняць удзелу ў абнаўленні, якое нясе Бог.

Аднойчы я сказаў аднаму чалавеку: "Бог можа даць табе новае жыццё", на што пачуў адказ: "Дзякуй, я не хачу ніякіх зменаў, мяне ўсё задавальняе". Калі мы ставім такія кропкі, то духоўнага абнаўлення не будзе, і мы раней ці пазней засохнем. Падабаецца нам гэта ці не, але Бог робіць усё новае.

Хачу тут сказаць пра адну небяспеку. Ёсць людзі, якія ганяюцца за нечым новенькім, шукаюць сенсацый, кантраверсій, увесь час правакуюць. Насамрэч, тут мы назіраем тады не духоўнае абнаўленне, а глыбокія духоўныя праблемы неспакойнага чалавечага духу. Такія людзі самі ствараюць для сябе ўсё новае, не могуць заглыбіцца ў штосьці, не маюць сталасці і паслядоўнасці. Гэта праблема. Важна зразумець, што гэта не мы шукаем нечага "новенькага", а прымаем тое новае, што робіць Бог. Для гэтага трэба шмат пакоры перад Богам, патрэбныя страх Божы, духоўны досвед і асцярожнасць. Думаю, што як найбольш адпаведнай тут будзе прыпавесць пра мудрага чалавека, які дастае рэчы старыя і новыя. Сапраўды, патрэбна мудрасць і распазнанне, каб убачыць, які духоўны вопыт і надалей актуальны, а што новае трэба прыняць з Божай рукі.

Калі мы не гатовыя да зменаў, да таго новага, што гатовы даць нам Бог, – гэта вялікая духоўная праблема, якая не дазваляе нам перажываць абнаўлення ў Святым Духу. Ходзячы па калядзе, я меў магчымасць убачыць шмат вясковых хатаў, дзе столькі староцця, столькі бруду, што часам здзіўляешся, як тут могуць жыць людзі. І пытанне тут не ў беднасці. Некаторыя жывуць вельмі сціпла і бедна, але там прыбрана, акуратна, чыста. Пытанне не ў адсутнасці грошай, а ў няздольнасці згадзіцца на змены. Усе гэтыя старыя газеты на сценах, замусоленыя абрусы, смярдзючыя анучы ў кожным куце – гэта няздольнасць да зменаў. Думаю, што тут вялікая духоўная праблема. Гэта выразны вобраз, які паказвае, як выглядае ўнутраны стан чалавека, які не гатовы да зменаў у сваім жыцці, а таму і не бачыць цудаў ад Бога.

Часам мне вельмі хацелася сказаць чалавеку: "А вы не думалі, што ў вашым жыцці ўсё можа быць інакш, па-новаму, вы не хацелі б нешта змяніць?" Але разам з гэтым жаданнем я выразна адчуваў, што чалавека ўсё задавальняе… Я адчуваў сябе нібы Марфеус з "Матрыцы", які прапануе дзве таблеткі. Пасля адной ты вяртаешся ў сваё старое жыццё, і нічога не мяняецца. Пасля другой пачынаецца зусім іншае жыццё, поўнае невядомага.

Заўважце, што прапанова Езуса пакінуць чаўны, працу, сям'ю, багацце, дзяржаву – гэта не што іншае, як прапанова зрабіць крок у напрамку да новага жыцця з Богам. Гаворка не пра тое, што вучні Езуса жылі вельмі грэшна. Тут не пра грэх гаворка, а пра тое новае, што чыніць Бог.

**Пажадлівасці і грахі**

Адна з прычынаў няздольнасці перажываць абнаўленне ў Святым Духу – гэта чалавечая пажадлівасць, альбо пахаць. Тут гаворка ідзе не толькі пра сексуальнасць, але пра жаданне, каб было памойму, каб дагаджаць сабе, а не Богу. У прыпавесцях Езус шмат кажа пра слугаў. Гэта важны евангельскі вобраз. Божы чалавек клапоціцца не пра свае справы, а пра справы Бога. Тэма, насамрэч, даволі банальная, мы часта яе чуем, але ў ёй хаваецца аснова духоўнага жыцця. Чалавек, які не распачаў барацьбу са сваімі пажадлівасцямі і не шукае, як дагадзіць і паслужыць Богу, духоўна не развіваецца і не перажывае абнаўлення. Мы можам гэтую праўду ведаць і шмат пра яе разважаць, але калі я ўвесь час тапчуся вакол самога сябе – ніякага духоўнага абнаўлення не адбываецца. Няхай папярэджаннем пра тое, наколькі гэта сур'ёзна, будуць словы Езуса, якія Ён сказаў Пятру: "Адыдзі ад Мяне, сатана! Ты для Мяне спакуса, бо думаеш не пра тое, што Божае, але пра тое, што чалавечае!" (Мц 16,23).

Да пажадлівасцяў можна аднесці і сексуальнасць, і нашыя планы, і амбіцыі, і лянοту, і тыя прыемнасці ды моду, якую падсоўвае нам гэты свет. Падумай і адкажы сабе: ці тваё разнастайныя пажадлівасці не з'яўляюцца галоўнай прычынай адсутнасці духоўнага абнаўлення?

**Як адбываецца абнаўленне?**

Найперш – гэта дзеянне Святога Духа. Абнаўленне нельга проста вымаліць ці заслужыць. Калі Бог бачыць, што мы гатовыя прыняць "новае" з Яго рукі, – Ён дае. Такое абнаўленне можа быць на прыватнай малітве, на малітоўнай сустрэчы, можа адбыцца пасля размовы або сустрэчы з Божым чалавекам. Яно можа адбыцца ў любы час і на любым месцы, паколькі аўтарам гэтага абнаўлення ёсць Бог, а не чалавек. Важна, аднак, звярнуць увагу, што духоўнае абнаўленне ў Святым Духу прыносіць нам не палёгку на кароткую хвіліну, а трывалыя змены на многія гады ці нават на ўсё жыццё. Яго немагчыма зблытаць з часовым эмацыйным перажываннем ці мімалётнай думкай. Духоўнае абнаўленне нібы пячатка ад Духа Святога, пра якую нельга забыцца або сцерці. Яно можа адбывацца некалькі разоў, але заўсёды пакідае значны след, плён Святога Духа, пра што пісаў апостал Павел.

# В Лётцах отметили тридцатилетие создания витебского сообщества АА

**10 – 11 декабря витебское движение АА (анонимные алкоголики) отмечали тридцатилетнюю годовщину своего основания. Праздничный форум проходил в детском оздоровительном лагере "Магистраль" в деревне Малые Лётцы.**

**■ Лолита Орловская**



На встрече присутствовали представители движения АА из других регионов Беларуси и из России. Поздравить сообщество приехали представители Католической и Православной Церквей, социальных структур и медицинские работники.

Важно отметить, что сообщество не зависит от какого-либо государственного учреждения, политической или религиозной организации. А главной его целью является взаимная помощь в сохранении трезвости.

Мероприятие началось минутой молчания, которая завершилась групповой молитвой о душевном покое. После чего началась основная часть, во время которой участники вспомнили историю создания движения в Витебске, а гости поздравили сообщество.

Витебское движение АА было основано в 1992 году. Много усилий для становления группы приложил нарколог Циркунов. Первая группа состояла всего из 5 – 6 человек и через несколько месяцев после основания распалась. Новая группа начиналась с нуля, но с того времени встречи стали совершеннее.

Через некоторое время группа АА потеряла помещение, но собрания прекращать было нельзя. Тогда участники стали собираться на квартирах, а позже – в костёле святого Антония, настоятель которого любезно предоставил место для встреч. С того времени собрания и проходят в этом костёле.

На форуме представители витебского движения АА поделились своим опытом борьбы с алкоголизмом, в котором большую роль играют собрания группы.

"На группе люди делятся опытом, силами и надеждой для того, чтобы помочь себе и другим избавится от алкоголизма. Люди в группе – это те, кто, несмотря на твои слабости, может посмотреть на тебя с любовью. Это помогает уйти от болезни, которая действительно неизлечима", – поделился один из участников.

Представители Католической Церкви отметили значимость движения АА как тех, кто может показать людям, что вести трезвую жизнь возможно.

Многие из участников встречи не употребляют алкоголь уже несколько лет, а некоторые – и несколько десятков лет. Это действительно можно назвать чудом.



# Нараджэнне Хрыста – Уцелаўленне Слова

**Свята Божага Нараджэння, да якога мы рыхтаваліся на працягу Адвэнту і якое з радасцю адзначаем у гэты перыяд, заахвочвае нас заглыбіцца ў радасную і заўсёды новую праўду, што "Слова сталася целам і пасялілася між намі" (Ян 1, 14). Нараджэнне Езуса ў Бэтлееме – вялікая таямніца Уцелаўлення спрадвечнага і дагэтуль нябачнага Сына Божага, Якога Евангелле называе таксама менавіта Словам (Логасам). Успомнім, што гэты грэцкі выраз мае таксама значэнне "парадак, лад, розум, закон".**

У Ім, Умілаваным Айцу, хаваецца "сакрэт" і ключ да ладу ўсяго існага ў сусвеце. І вось Ён становіцца даступным для нас у чалавечай постаці, падобны да нас ва ўсім, апроч граху. Літургічнае святкаванне Хрыстовага Нараджэння дазваляе нам адзначаць гэту падзею не проста як гістарычнае здарэнне ў мінулым, а як праўду, актуальную для нас у кожны час. "У шатры ўлоння Марыі Хрыстус пасяліўся на дзевяць месяцаў; у шатры веры Касцёла – аж да сканчэння веку; а ў вернай душы, якая спазнае і любіць, Ён будзе трываць навекі вякоў", абвяшчае бл. абат Ісаак, містык XII ст. Узгадаем яшчэ раз вучэнне св. Амброзія: "Марыя – Маці Хрыста паводле цела, але паводле веры Хрыстус – плод усіх".

Папа Бэнэдыкт XVI так каментуе сказанае Амброзіем: "Кожны хрысціянін-вернік у пэўным сэнсе зачынае і нараджае ў сабе Божае слова… Тое, што здарылася з Марыяй, штодзённа можа нанова адбывацца з кожным з нас, калі мы слухаем Божае слова і цэлебруем сакраманты". Найсвяцейшая Панна – дасканалы ўзор паслухмянасці Божаму слову, якое звястуе Ёй Габрыэль: "Няхай мне станецца паводле твайго слова" (Лк 1, 38). Але ў дыялогу з Божым пасланнікам Яна робіць тое, што перад вякамі ў вечнасці здзяйсняе Божы Сын, паслухмяны волі Айца, як прарочыць аўтар псальма, цытаваны ў Пасланні да Габрэяў: "Вось іду, (…) каб выканаць волю Тваю, Божа" (Гбр 10, 7). "Ахвяры і прынашэння Ты не захацеў, але цела падрыхтаваў Мне", – сказана пра прыйсце Хрыста ў наш свет там жа крыху раней (10, 5). Прымаючы чалавечае цела, Сын Божы вяртае адносінам паміж Богам і чалавецтвам рысу, страчаную праз першародны грэх: паслухмянасць, якая нараджаецца ад слухання (у габрэйскай мове "слухаць" і "слухацца", "быць паслухмяным" – гэта адзін і той жа дзеяслоў) і якая не адбірае нашу свабоду, але, наадварот, робіць па-сапраўднаму свабоднымі. Езус, наш Брат і Пан, – не проста прыклад, але крыніца нашай здольнасці адказваць "так" на Божы заклік: "Без Мяне нічога не можаце зрабіць" (Ян 15, 5). Ён – "пачынальнік і завяршальнік веры" (Гбр 12, 2), і ўсе вернікі, што ў гісторыі збаўлення прыйшлі перад Ім, "айцы нашыя, (…) пілі з духоўнай скалы, што спадарожнічала ім, а скалою быў Хрыстус" (1 Кар 10, 1.4).

**Слова і Эўхарыстыя**

Другі Ватыканскі Сабор у канстытуцыі Gaudium et Spes ("Радасць і надзея") так абвяшчае таямніцу еднасці ўсяго чалавецтва ў Хрысце: "Ён, Сын Божы, праз сваё ўцелаўленне пэўным чынам аб'яднаўся з кожным чалавекам" (п. 22). Гэтую еднасць – "камунію" – мы асаблівым чынам перажываем у сакраманце Эўхарыстыі, дзе Хрыстус становіцца спажыткам дзеля нас. У Эўхарыстыі цесна пераплецена таямніца жывой прысутнасці Езуса ў хлебе і віне, з аднаго боку, і ў словах Пісанняў, з другога. "Касцёл заўсёды шанаваў Божае Пісанне, як і само Цела Пана, паколькі, асабліва ў святой Літургіі, ён няспынна бярэ са стала Божага слова і Цела Хрыстовага хлеб жыцця і ўдзяляе яго вернікам", сцвярджае Другі Ватыканскі Сабор (Dei Verbum, 21). Папа Бэнэдыкт XVI у паслясінадальнай адгартацыі Verbum Domini (2010 г.) прыводзіць словы святога Гераніма: "Евангелле – гэта цела Хрыста <…> Калі маем дачыненне з [эўхарыстычнай] таямніцай, і падае крошка, адчуваем сябе загубленымі. Калі ж слухаем Божае слова, і яно пранікае ў нашыя вушы, а таксама цела Хрыста і Яго кроў, а мы думаем пра штосьці іншае, якая ж вялікая небяспека нам пагражае?" Далей Бэнэдыкт XVI піша: "Хрыстус, сапраўды прысутны ў постацях хлеба і віна, аналагічна прысутнічае ў Слове, якое абвяшчаецца ў Літургіі" (п. 56).

У перыяд Божага Нараджэння Касцёл у Літургіі паралельна з евангельскімі аповедамі пра першыя дні і тыдні жыцця Езуса ў гэтым свеце чытае Першае Пасланне апостала Яна. І кожнаму з нас, напэўна, варта далучыцца да гэтай lectio – калі не падчас Эўхарыстыі, тады самастойна. "Тое, што было ад пачатку, што мы чулі пра Слова жыцця, што бачылі на свае вочы, на што глядзелі і да чаго дакраналіся нашыя рукі, – бо жыццё аб'явілася, і мы <…> абвяшчаем вам гэтае вечнае жыццё", піша на пачатку Пасланія Ян, дзелячыся няспыннай крыніцай радасці (1 Ян 1, 1–4). Аўтар Чацвёртага Евангелля тут сцвярджае цэнтральную праўду і падказвае ключ для разумення ўсяго Божага аб'яўлення: "Бог ёсць любоў" (1 Ян 3, 8). "Кожны, хто любіць, народжаны ад Бога", дадае Ян (там жа, в. 7). Радасць святкавання прыйсця Божага Сына ў гэты свет – гэта радасць сустрэчы з Уцелаўлёнай Любоўю: з тым, хто паказвае нам аблічча нябачнага Айца. Менавіта Божая любоў – "ключ" да таго, каб нам правільна ўспрымаць усё, сказанае ў Святым Пісанні, вучыць св. Аўгусцін. Асабліва гэты крытэрый дапамагае, калі ў цяжкіх для зразумення ці ўспрыняцця месцах мы чуем тое, што нібыта ставіць пад пытанне дабрыню Бога і Ягоны спосаб дзеяння ў гісторыі збаўлення.

Мы прымем яшчэ адну параду, якую разам з айцамі Сінода, прысвечанаму Святым Пісанням, дае Папа Бэнэдыкт XVI: важнасць маўчання для таго, каб "засвойваць" словы Пана, скіраваныя да нас са старонак Біблії. "Сёння вельмі важна часта паўтараць Божаму народу, што маўчанне – гэта каштоўнасць", – піша Бэнэдыкт XVI (Verbum Domini, 66). "Ціхая ноч, святая ноч", спяваем мы ў знакамітай калядная песні. Менавіта цішыня неабходная для таго, каб Божае пасланне было пачута, а не згубілася ў патоку шуму інфармацыі, думак, пастаянных стымулаў. Няхай Пан дапаможа нам перажыць Ягонае нараджэнне ў той глыбокай радасці, якую дае ўважлівае ўслухоўванне ў цішыні ў пасланне Ягонай бязмежнай любові да нас.

***Айцец Віктар Жук SJ***
*г. Віцебск*

# У вёску прыязджае *аўталаўка*:

## ці правільна гэта па-беларуску?

**Нагодай для падрыхтоўкі гэтага моўнага артыкула стала пытанне нашай чытачкі спадарыні Валянціны з Глыбоччыны.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Яна, у прыватнасці, піша: "Да нас у вёску два разы на тыдзень прыязджае аўталаўка. Як і ў іншыя вёскі… Даўно хацела спытаць, ці правільна мы ўсё ж называем гэты "магазін на колах" – **аўталаўка**? Надпіс на машыне зроблены па-руску, таму ўсе так і гавораць: *прыйшла аўталаўка, схадзі ў аўталаўку, купі ў аўталаўцы*. Ці яшчэ прасцей: *прыйшла лаўка, схадзі ў лаўку, купі ў лаўцы*…

Я даўно цікаўлюся нашай мовай, сама стараюся гаварыць правільна. Але ж не ўдаецца. Таму і гэтае пытанне не дае мне спакою: ці правільна мы гаворым пра аўталаўку? Ці па-беларуску гэта?"

Адразу скажам, што ўзнятае спадарыняй Валянцінай пытанне цалкам лагічнае. І праблема ў правільнасці выкарыстання слова **аўталаўка** сапраўды ёсць. Паспрабуем разабрацца.

Асноўнае значэнне назоўніка **лаўка** ў беларускай мове – гэта "прыстасаванне для сядзення на некалькі чалавек у выглядзе нешырокай дошкі на слупках або ножках у парку, на дварэ і г.д." (*Хлопцы і дзяўчаты сядзелі на **лаўцы** каля хаты, гаманілі, жартавалі, гучна смяяліся*). Таксама слова можа ўжывацца са значэннем "прыстасаванне ў вагоне для сядзення або ляжання пасажыраў" (*Мужчына зайшоў у купэ і адразу заняў ніжнюю **лаўку***). Выкарыстанне назоўніка **лаўка** са значэннем **магазін** у беларускай мове тлумачыцца ўплывам рускай мовы, дзе гэтае слова – ***лавка*** – адпавядае ўсім патрабаванням. З пункту гледжання культуры беларускага маўлення лексема **лаўка** – русізм. Яго ўжыванне парушае чысціню нашай мовы.

Найлепшым адпаведнікам варта лічыць складаны назоўнік **аўтакрама**. Слова **крама** зафіксаванае яшчэ ў "Слоўніку беларускай мовы" Івана Насовіча (1870 г.). Таксама ў згаданым слоўніку фіксуем формы **крамка** – невялікая крама, **крамнік** – той, хто прадае, **крамніца** – тая, якая прадае, **крамны** – такі, які мае адносіны да крамы.

Назоўнік **крама** падаецца ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (1978 г.) са значэннем **магазін** і ілюстрацыяй: *Каля адной крамы стукаюць у патэльні, каля другой звоняць косамі – пакупнікоў заклікаюць*. У гэтым жа слоўніку зафіксаваныя назоўнікі **крамнік** – "уладальнік крамы або прадавец у краме" – і **крамніца** – "уладальніца крамы ці прадаўшчыца ў краме". Дарэчы, назоўнік **крама** выкарыстоўваўся і ў старажытнай беларускай мове і існаваў у двух варыянтах: **крама** і **крамъ** ("Этымалагічны слоўнік беларускай мовы". – Т.5 – Мінск, 1989. – С. 110).

Таксама варта звярнуць увагу на дастаткова шырокае выкарыстанне, асабліва на працягу ХХ стагоддзя, прыметніка **крамны** са значэннем "куплены ў краме, фабрычнага вырабу". Тут неабходна адзначыць досыць важны для нас этнакультурны элемент, які адлюстроўвае пэўныя асаблівасці побыту нашага вясковага насельніцтва ў мінулым стагоддзі, перадусім у першай яго палове: **крамны** супрацьпастаўляецца даматканым вырабам, гэта значыць, зробленаму ўласнымі рукамі, самімі гаспадынямі. Гэта тое, што не купленае ў краме. Прыгадаем тут радкі




Петруся Броўкі: *Маці косы заплятала / Новым **крамным** каснікам*. Або яшчэ прыклады: *Дзяўчаты апраналіся ў сваё, даматканае. Не было і гаворкі, каб апрануць нешта **крамнае**; Настаўніца была гарадская, хадзіла ва ўсім **крамным***.

Разам з тым паўстае лагічнае пытанне: а ці можна сказаць **аўтамагазін**? Паколькі назоўнік **магазін** – гэта нарматыўнае слова ў сучаснай беларускай мове, то і складаная лексема – **аўтамагазін** – можа ўжывацца, несумненна. Дададзім толькі, што калі мы імкнёмся падтрымліваць высокі ўзровень культуры беларускага слова, то варта аддаваць перавагу назоўніку **крама**. І адпаведна канструкцыя *У вёску прыязджае **аўтакрама*** больш пажаданая, чым *У вёску прыязджае **аўтамагазін***. Але ні ў якім разе не варта ўжываць форму **аўталаўка**. Таму і сказы кшталту *прыйшла аўталаўка, схадзі ў аўталаўку, купі ў лаўцы* выглядаюць штучнымі і нават двухсэнсоўнымі. І, адказваючы на пытанне нашай чытачкі, канстатуем, такім чынам, што ў вёску прыязджае **аўтакрама**.

# “Давяраю Табе, Бог мой, Твая Маці мяне вядзе”. *Шчырая размова з Вольгай Хілько*

***Часам Пан Бог пасылае на наш жыццёвы шлях цікавых людзей. Калі знаёмішся з імі, здаецца, што у сутках больш за 24 гадзіны, а ў тыдні – больш за 7 дзён.***

***Чаму так кажу? Напрыклад, нашая сённяшняя суразмоўца – жонка, маці траіх цудоўных дзяцей, лекар, актыўная каталічка, удзельніца хору, а яшчэ - аўтар і выканаўца хрысціянскіх спеваў.***

***Так так, гэта ўсё пра адну прыгожую жанчыну, якая аднойчы даверылася Богу і Марыі, а Яны змянілі жыццё.***

**- Раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе: дзе нарадзіліся, якая была ў Вас сям’я?**

- Я нарадзілася ў Віцебску ў 1985 годзе. Нашая сям’я складаецца з чатырох чалавек: тата, мама, я, старэйшы брат. Мама праваслаўная, тата – католік. Мы былі ахрышчаныя ў Каталіцкім Касцёле. Бацькі не хадзілі ў храм самі, і не вадзілі туды нас. Але кожнае лета мы прыязджалі да бабулі ў Лынтупы. Яна была чалавекам, які паказаў мне Бога. Упэўненая, што толькі дзякуючы прыкладу веры бабулі Яніны, яе малітвам, я перажыла навяртанне і прыйшла да Бога.

**- Якім ён быў, гэты шлях да сапраўднай сустрэчы з Хрыстом?**

- Ва ўзросце пятнаццаці гадоў я прыняла Першую Святую Камунію. Гэта было маё асабістае рашэнне, бо прыклада рэлігійнага жыцця ў сям’і я не бачыла.

Але ж прыязджала ў Лынтупы. Там бабуля вадзіла нас у касцёл. Я ўдзельнічала ў Імшах і набажэнствах. Памятаю, што стаяць на каленях было цяжка, тое, што адбываецца на Імшы было незразумела. Але гэта быў мой шлях. Я шукала сябе, сваё пакліканне, мэту жыцця, творчы накірунак.

У падлеткавым узросце я вырашыла, што хачу пайсці да споведзі. Маё жыццё было насычаным, грахоў назбіралася шмат. Сэрца прагнула аддаць іх Пану Богу і прымірыцца з Ім. Я прыйшла ў Віцебскі касцёл, ксёндз даў мне кніжачку, сказаў: “Прачытаеш яе і прыходзь, паразмаўляем”. Гэтую кніжачку я чытала прыкладна год. Было шмат незразумелых пытанняў, а задаць іх не было каму, бо бабуля была далёка.

Зноў надышло лета. І я зноў прыехала ў Лынтупы. Там падышла да ксяндза Паўла (Кнурэка). Першым яго пытаннем было:

- Ці любіць цябе Езус?

- Адкуль жа я ведаю? – адказала я.

- Добра, прыходзь, будзем высвятляць.

Так пачаўся мой шлях да Бога, які працягваецца па сённяшні дзень.

**- А як распачаўся Ваш творчы шлях?**

- Мая мама музыкант – выкладчык класічнай гітары. Вядома, я часта бачыла і чула, як яна рыхтуецца да заняткаў, рэпетуе. Музыка ў маім доме была заўсёды. Памятаю, як часам мне хацелася спаць, але мама ўсё іграла і іграла. Таму я і засынала пад музыку і яе ігру (усміхаецца).

Мама была ў клубе аўтарскай песні, там, дзе музыканты збіраліся, гралі і спявалі разам. А я была заўсёды з ёй. Пранікалася атмасферай рэпетыцый і выступаў, знаёмілася з музыкантамі, гасцямі.

Кожны год праходзілі фестывалі аўтарскага спеву. Там я і дэбютавала ў сваіх 15 год на конкурсе са сваёй песняй. Гэта быў, канечне ж, спеў пра каханне.

**- А калі пачалі з’яўляцца хрысціянскія спевы?**

- Калі я прыняла Першую Святую Камунію, пачалося маё актыўнае жыццё і служэнне ў касцёле. Я хадзіла ў Віцебскую парафію Святой Барбары. Там наведвала спатканні для моладзі, пазнаёмілася з айцом Браніславам Дашкевічам, які стаў маім духоўным кіраўніком.

Айцец Браніслаў запрасіў іграць на гітары падчас св. Імшы з удзелам дзяцей. Гэтае служэнне развівала мяне, узмацніла любоў да інструменту.

Тады і з’явіўся мой першы спеў “Пабудуй свой дом на скале”. Я яго напісала, мы спявалі з моладдзю ў касцёле, але потым закінула. Праз доўгія гады я яго рэанімiравала. Канешне, не змагла ўспомніць арыгінал, крыху перарабіла, але ён увайшоў у першы альбом.

А яшчэ адным з першых стаў спеў “Ты мой Госпад, я чакала Цябе”. Яго я напісала пасля навяртання, як падзяку Пану Богу за тое, што прывёў мяне да Сябе.

Гэта былі першыя спробы пісаць хрысціянскія творы. Наступныя з’явіліся цягам вялікага перапынку ў амаль 15 год.

**- А як Вы лічыце, чаму не пісаліся спевы?**

- Таму што было вельмі актыўнае і насычанае жыццё. Мы з моладдзю шмат збіраліся, падарожнічалі, удзельнічалі ў рэкалекцыях. Разам з тым, я вучылася спачатку ў медычнай вучэльні, потым – ва ўніверсітэце. І, здаецца, каб прыпыніцца і штосьці напісаць, не было ні часу ні натхнення.

**- А што дало штуршок да напісання наступных спеваў?**

- Я лічу, што гэта была пілігрымка ў Меджугор’е.

**- Чаму Вы вырашылі туды паехаць?**

- На той момант я ўжо выйшла замуж. Стала маці траіх дзяцей. Малодшай дачцы было 1.7. Я вельмі стамілася ад усяго: ад дэкрэту, ад дзіцячых хвароб, дамашніх абавязкаў. На сустрэчы са сваім духоўным кіраўніком, тады гэта быў айцец Віталь Сапега, я падзялілася сваёй стомленасцю і фізічнай і духоўнай, а айцец Віталь – сваімі планамі паехаць у пілігрымку ў Меджугор’е.

Ён распавёў, што пілігрымка адбудзецца праз некалькі месяцаў і будзе трываць 9 дзён. Калі я пра гэта пачула, адразу сказала – запішыце мяне. Я зраблю сабе падарунак.

**- Гэта было абдуманае рашэнне маці траіх дзяцей?**

- Канешне ж не *(усміхаецца)*. Проста была вялікая прага выехаць з дому, сабрацца з думкамі, насыціцца Панам Богам, каб потым існаваць далей і аддаваць сябе іншым. Бо на той момант я адчувала сябе поўнасцю спустошанай знутры.

**- Як адбылася гэтая пілігрымка?**

- Я запісалася ў пілігрымку. І чым бліжэй быў час ад’езду, тым больш я разумела, што не магу туды паехаць: вельмі маленькая была тады Мая – мая дачка. Я разумела, што проста не магу пакінуць яе на такі доўгі час.

Патэлефанавала арганізатару пілігрымкі, каб адмовіцца ад удзелу. А ён спытаўся, ці ёсць у дачкі віза і прапанаваў узяць яе з сабою.

Я была ўпэўненая, што гэта не самая лепшая ідэя: дзіцяці няма нават двух гадоў, дзевяць дзён у аўтобусе, мы будзем усім перашкаджаць.

Усё ж такі мы паехалі.

Успамінаю гэтую карціну ад’езду. Раніца, 5.30. Я падыходжу да аўтобусу з вазочкам, у якім спіць малое дзіця. Усе ўдзельнікі пілігрымкі, разам з вадзіцелем дзіўна на мяне глядзяць. Не ведаю, што яны думалі ў той час, але хачу сказаць, што напрацягу паездкі кожны імкнуўся мне дапамагчы. Зазначу, што Мая паводзіла сябе вельмі добра. Дачка стала найлепшай маёй спадарожніцай.

**- Ці ведалі Вы штосьці пра месца, у якое едзеце?**

- Трэба сказаць, што я і пра Панну Марыю мала чаго ведала. Ну так, гэта Маці Божая, але ніякай любові і адносінаў у мяне не было. Усю інфармацыю пра Меджугор’е, аб’яўленні, сведчанні я атрымала ўжо падчас дарогі.

Таму, тая пілігрымка стала сапраўды маім шляхам набліжэння да Маці Божай.

**- Напачатку Вы казалі, што ў пілігрымцы хацелі адпачыць. Ці атрымалася?**

- Не магу сказаць, што я адпачыла, але дакладна атрымала вельмі шмат. Гэта і малітва, і духоўнае насычэнне, і знаёмства з цудоўнымі людзьмі, і, канешне ж, сустрэча з Маці Божай.

Не абышлося без цяжкасцяў. Мая захварэла ў дарозе. Замест таго, каб пайсці на гару Крыжавец – мэту пілігрымкі, я засталася лекаваць дзіця. Але прыняла гэта ў пакоры. Калі ёй стала крыху лепш, мы падняліся на гару Аб’яўленняў. Там я даверылася Марыі і папрасіла, каб наступны раз у нас атрымалася вярнуцца ў Меджугор’е ўсёй сям’ёй.

Хачу сказаць, што нягледзячы на розныя перашкоды, праз год наша сям’я зноў прыехала ў Меджугор’е, за што я вельмі ўдзячная Пану Богу і Марыі.

**- Якія былі плёны той пілігрымкі?**

- Пасля сустрэчы з Маці Божай, Яна пачала дзейнічаць у маім жыцці. Я пайшла ў Легіён Марыі, там упершыню за пяць год узяла у рукі гітару, пачала іграць, спяваць падчас розных набажэнстваў. Мы паехалі на рэкалекцыі ва Уселюб. Тады гэта было далёкае, невядомае глухое месца, але яно натхніла сваёй адкрытасцю. У гэтым ціхім куточку я адчула мацярынскую любоў і падтрымку Маці Божай.

Калі гуляла па парку, да мяне прыйшлі словы спеву: “Давяраю Табе, Бог Мой. Твая Маці мяне вядзе, напаўняе любоўю і дабром, супакой у сэрцы дае”.

А потым вельмі хутка пачалі з’яўляцца новыя спевы.

**- Шмат людзей піша спевы, але не кожны можа выдаць свой альбом. Як атрымалася ў Вас?**

- Сваімі спевамі я хацела дзяліцца. Ніколі нікому іх не навязвала, але людзям яны падабаліся. Мы спявалі іх падчас Адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, падчас ружанца.

Аднойчы я паказала іх сваёй сяброўцы скрыпачцы, яна сказала: “Трэба запісаць альбом”. У мяне было шмат сумненняў: хто захоча пісаць альбом? Ці дастойныя мае спевы? Каму яны ўвогуле патрэбныя?.

Бог мяне накіроўваў да розных людзей, між іх была і Ядзя Багдановіч. Яна знайшла студыю, прапанавала запісацца. Цікава, што для запісу патрэбна была добрая гітара. У мяне яе не было. Я звярнулася да сваёй маці, яна падзялілася сваёй.

Трэба сказаць, што запіс альбома прыйшоўся на пачатак эпідэміі каронавірусу. Але і тут Госпад дапамагаў нам. Альбом мы ўсё ж запісалі.

**- Як Вы рэагуеце, калі чуеце, што іншыя гурты і супольнасці спяваюць Вашыя спевы?**

- Першы раз я пачула ў выкананні дзіцячага хору свой твор “Мы чакаем тваёго нараджэння, Хрыстос”. Па маім твары цяклі слёзы. Гэта былі слёзы радасці і ўдзячнасці Богу за талент і за магчымасць ім дзяліцца. Дзеці спявалі яго быццам анёлы. Ён загучаў зусім па-іншаму.

Увогуле, аўтарскі спеў ў выкананні хору ці дзяцей, калі далучаецца шмат галасоў, інструментаў, гучыць па-іншаму, але так у твораў з’яўляецца другое жыццё. І гэта вельмі радасныя адчуванні.

**- Вашыя творы – гэта толькі хрысціянскія спевы, або ў рэпертуары ёсць нешта свецкае?**

- Ёсць спевы, прысвечаныя маме, мужу, або калыханкі. Але ў іх я давяраю Богу сваіх родных людзей і лічу іх, хутчэй, хрысціянскімі.

Напрыклад, калыханкі я запісала, калі хварэлі дзеці і прасілі нешта напісаць.

Памятаю, як мая дачка Мая папрасіла: “Мама, напішы нам спеў.” Так з’явілася калыханка.

Я не бачу патрэбы пісаць свецкія спевы, бо не бачу ў іх сябе.

Напісанне і выкананне спеваў – гэта мой асабісты шлях да Бога і асабістая псіхатэрапія.

**- Ці падтрымлівае Вашую творчасць сям’я?**

- Мая творчасць была б увогуле немагчымай без падтрымкі сям’і: мужа і дзяцей. Гэта мае натхняльнікі. Калі радасна на душы – я пішу. Калі сумна, я таксама пішу.

Муж падтрымлівае. Гэтая падтрымка выражаецца ў тым, што ён застаецца з дзецьмі, пакуль я ўдзельнічаю ў канцэртах. Вандруе з намі і па магчымасці ўдзельнічае ў мерапрыемствах.

Часамі маіх выездаў, канцэртаў, служэння бывае зашмат. Таму прыходзіцца рабіць выбар на карысць сваёй сям’і.

Ведаеце, нам заўсёды прасцей аддаваць сябе іншым людзям, цяжэй – быць і клапаціцца пра бліжэйшых людзей, якіх даў Пан Бог.

Хачу напрыканцы падзякаваць мужу, дзецям і ўсім хто побач за падтрымку, яна вельмі важная.

**- А мы дзякуем Вам, Вольга, за цікавы і шчыры аповед пра жыццё і творчаць. Жадаем Божага благаслаўлення і натхнення на новыя творы.**

***Размаўляла Вікторыя Філіпенка***





# “100 батлеек у Ватыкане”: адкрыццё ўнікальнай выставы

**На плошчу Святога Пятра вяртаецца выстава “100 батлеек у Ватыкане”, у якой прымуць удзел мастакі з усіх куткоў свету.**

Усёлетнюю экспазіцыю ўвайшло 120 ясляў з розных еўрапейскіх краін, у прыватнасці, з Украіны, Венгрыі, Мальты, Славеніі, Славакіі, Харватыі, а таксама з іншых дзяржаў, напрыклад, з Тайваня, Венесуэлы, Гватэмалы.

У прэс-рэлізе арганізатараў выставы адзначаецца, што ўсе батлейкі вельмі розныя: яны зробленыя ў розных стылях і адлюстроўваюць натхненне і фантазію мастакоў. Некаторыя экспанаты закранаюць пэўныя выклікі і крызісы сучаснасці, такія, як вайна ва Украіне, змена клімату або трагедыі ў Міжземным моры.

Экспазіцыя абнаўляецца штогод. Творы паходзяць з усіх італьянскіх рэгіёнаў і з іншых краін свету. Батлейкі створаныя як мастакамі, так і аматарамі, вучнямі школ і прадстаўнікамі розных арганізацый і таварystваў. Выкарыстоўваюцца разнастайныя матэрыялы: тканіны, дрэва, срэбра, бронза, жалеза, каралы, шкло, кераміка, газетная папера, перапрацаваныя элементы, шакалад, гузікі, свечкі, алоўкі і г.д. Большасць кампазіцый – статычныя, але некаторыя рухаюцца. Памеры фігур вар'іруюцца ад мініяцюрных да статуй у чалавечы рост.

Адкрыццё гэтай унікальнай міжнароднай выставы адбылося пад каланадай Берніні 8 снежня а 16-й гадзіне. У мерапрыемстве, якое ўзначаліў арцыбіскуп Рына Фізікела – прэфет Дыкастэрыі па евангелізацыі – прынялі ўдзел прадстаўнікі амбасады Украіны пры Святым Пасадзе. Іграў аркестр Ватыканскай жандармерыі, а прадстаўнікі ўкраінскай супольнасці праспявалі традыцыйныя калядныя спевы.

Выстава “100 батлеек у Ватыкане” праводзіцца ў Рыме штогод у калядны перыяд, пачынаючы з 1976 года. Да 2018 года яна размяшчалася на рымскай П'яцца-дэль-Попала. Мэта выставы – папулярызаваць традыцыю калядных ясляў. Спачатку гэта была ініцыятыва рэдакцыі часопіса Rivista delle Nazioni, але праз цяжкасці з фінансаваннем за кошт сродкаў, атрыманых ад продажу квіткоў, паўстала пагроза яе працягу. Падтрымку мастацкай ініцыятыве, з улікам яе вялікага евангелізацыйнага патэнцыялу, вырашыла аказаць Апостальская Сталіца. Так пяць гадоў таму выстава перамясцілася на тэрыторыю Ватыкана.

Выстава будзе вітаць наведвальнікаў на працягу пяці тыдняў: з 8 снежня 2022 па 8 студзеня 2023, з 10.00 да 19.30 штодня, акрамя 24 і 31 снежня, калі экспазіцыя зачыняецца а 17.00. Уваход вольны.



*Марыя Валодзіна*
*беларуская рэдакцыя Vatican News*



# На поўдні Іспаніі адкрылі самую вялікую ў свеце калядную батлейку

**У іспанскім Алікантэ на адной з плошчаў знаходзяцца самыя вялікія калядныя яслі. Некаторыя фігуры там дасягаюць дваццаці метраў. У 2019 годзе іспанская батлейка трапіла ў Кнігу рэкордаў Гінеса. З тых часоў ніхто не пераўзышоў гэтае дасягненне.**

Батлейка складаецца з фігур Святой Сям'і. Вышыня фігуры Дзіцятка Езуса – 3,25 метра, Марыі – 10 метраў, а фігура Юзафа – 17 метраў у вышыню. Іх аўтарам з'яўляецца Хасэ Мануэль Гарсія Эсківа, які выканаў фігуры з пластыку і жалеза.

Сёлета да батлейкі дадаліся Тры Каралі. Самы вялікі з іх, Бальтазар, мае вышыню больш за 16 метраў, Каспар – амаль 16 метраў і 11-метровы Мельхіёр.

Плошча, якую займае батлейка, – больш за 180 тысяч кв. метраў, таксама адна з самых вялікіх, якія зафіксаваныя да гэтага часу.

Манументальную батлейку дапаўняюць шэсць фігур анёлаў, размешчаных у розных месцах горада. Два з іх маюць восем метраў у вышыню, а астатнія чатыры – каля 9 метраў.

“Мы хочам зрабіць Алікантэ сталіцай Божага Нараджэння”, – адзначыў мэр горада Луіс Баркала.

– Гэтыя манументальныя яслі і шэсць анёлаў дораць нам шчасце і радасць у асаблівыя перадкалядныя дні. Яны ўжо сталі бясспрэчнай турыстычнай славутасцю, а таксама дапамагаюць у адначўленні мясцовага гандлю, – дадае мэр горада.

*polsatnews.pl*
*пераклад* ***Марыны Ткач***

# Пелікан. Цудоўная гісторыя сяброўства

**У розныя перыяды жыцця чалавеку падабаюцца розныя кінастужкі. На выбар фільма можа ўплываць пара году, настрой, жыццёвыя абставіны. Часам хочацца паглядзець вясёлую камедыю, часам меладраму, а часам – філасофскі фільм з глыбокім зместам.**

А вось калі вам захочацца паглядзець лёгкі прыгожы фільм, які будзе цікавы ўсёй сям'і, то прапаную “Пелікан”. Гэта французская камедыйная стужка рэжысёра Оліўе Орле.

Ці можа сустрэча чалавека і птушкі змяніць жыццё? Можа. І жыццё нават не аднаго чалавека. Пра гэта расказвае гледачам фільм “Пелікан”.

Падзеі адбываюцца на грэцкім востраве Сфінас. Жыхары звычайнай ціхай вёскі на беразе мора вядуць сваё штодзённае жыццё. Адны збіраюць вінаград, іншыя гандлююць на рынку, гаспадар адзінай на востраве кавярні частуе ежай і напоямі, а рыбакі ловяць рыбу.

Галоўныя героі – хлопец Яніс і яго бацька Дэмасфен. Два мужчыны, што страцілі маці і жонку.

Жыццё бацькі прасякнутае адзінотай і горам – ён страціў самага блізкага чалавека. Таксама і жыццё Яніса прасякнутае адзінотай і горам, бо ў адкрытага і вясёлага хлопчыка няма ні маці, ні сяброў, толькі каза Кіца – смешная жывёліна, якая надае адценне пазітыву ўсяму фільму.

Аднойчы, гандлюючы морапрадуктамі, хлопец заўважае на караблі маленькае птушаня. Ён не ведае, хто гэта, але шкадуе птушку і аддае за яе найдаражэйшае, што мае, – залаты крыжык памерлай маці.

Праходзіць час, і птушка падрастае. Аказваецца, што гэта пелікан. Нікастратас – такое імя дае ёй Яніс. Птушка становіцца сапраўдным сябрам для хлопца, а таксама знакамітасцю вострава.

Наперадзе ў Яніса і Нікаса шмат прыгодаў, поўных радасцяў і цяжкасцяў. Але праз гэтыя цяжкасці адбываецца сапраўдны цуд – перамены ў сэрцах. Мягчэе сэрца Дэмасфена, бацькі хлопчыка, ён пачынае заўважаць сына і адзначае ў сваім жыцці шчаслівыя моманты. Здаецца, што ўсе жыхары вострава становяцца больш шчаслівымі, сябруючы з белым пеліканам.

“Ёсць няшчасці, якія раз'ядноўваюць, ёсць няшчасці, якія набліжаюць людзей адно да аднаго”. Такой цудоўнай думкай заканчваецца стужка. Падчас прагляду адпачывае душа, а розум усведамляе, што шматлікія матэрыяльныя даброты не заменяць простых момантаў жыцця: сяброўства, усмешак, душэўных размоваў.

Няма сэнсу пераказваць фільм, я проста раю яго паглядзець. Апроч захапляльнага сюжэту і выдатнай ігры акцёраў, сярод якіх, між іншым, славуты Эмір Кустурыца, стужка аздобленая прыгожымі краявідамі грэцкага вострава. Асалодай для вока стануць неверагодная прыгажосці мора, белыя скалы, ціхія пячоры і, безумоўна ж, Нікастратас – прыгожы белы пелікан.



*Вікторыя Філіпенка*

# Ружа і сэрцы для Маці Божай з'явіліся ў тракельскім санктуарыі

**11 снежня ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях адбылася малітва ў інтэнцыі людзей, якія ахвяравалі воты ў выглядзе срэбраных сэрцаў у знак веры і ўдзячнасці за атрыманыя ласкі аздараўлення фізічнага і духоўнага характару, выслуханыя просьбы і пачутыя малітвы.**

Раней, 24 лістапада, у санктуарыі побач з цудатворным абразом Маці Божай была змешчана срэбраная ружа, якую кусташ санктуарыя ксёндз-канонік Юрый Бяганскі з нагоды 15-й гадавіны святарства ахвяраваў Панне Марыі з вялікай любоўю і падзякай за Яе прысутнасць у яго жыцці і матчын клопат.

Гэтым прыгожым жэстам з яго боку, актам веры і самаахвярнасці, святар выказаў надзею і жаданне, каб такі знак пашаны спрыяў памнажэнню велічы санктуарыя – месца, якое з'яўляецца апорай каталіцкай веры на Гродзеншчыне, – і каб культ Матулі Тракельскай яшчэ больш пашыраўся.

У Тракелях спакон веку ўшаноўвалі Дзеву Марыю, якая стала для вернікаў Каралевай сем'яў. Яна дзейнічае ў сваім Касцёле ад пачатку яго існавання і дапамагае ўсім, хто ў пакоры і веры аддае Ёй свае клопаты.



Колькасць вотаў у тракельскім санктуарыі пастаянна павялічваецца. Гэта ўжо становіцца традыцыяй, якую варта не толькі падтрымліваць, але і пашыраць.

Калі ў вас ёсць жаданне нешта падарыць Панне Марыі, то вы можаце зрабіць гэта праз воты, якія можна набыць у санктуарыі.

Звяртацца па тэлефоне:
**+375 (29) 289 36 38** - кс. Юрый Бяганскі

*Па матэрыялах grodnensis.by*

# Глыбоцкая супольнасць “Маці ў малітве” адзначыла свой першы юбілей

**У нядзелю, 11 снежня, супольнасць руху “Маці ў малітве” ў Глыбокім, якая налічвае 45 матуль, адзначыла сваё пяцігоддзе. Яна паўстала з натхнення Духа Святога па прапанове пробашча Мікалая Ціхановіча і старшыні парафіяльнай рады, маці святара Ядвігі Саўчанкі.**

**Людміла Сінкевіч**, *тэкст;* **Алёна Шаршунс**, *фота*

Святую Імшу ў інтэнцыі матуль руху і іх дзяцей цэлебраваў кс. Алег Зямчонак. Вікарый дзякаваў Богу за такую патрэбную супольнасць. Кс. Алег адзначыў у гаміліі, што кожная маці павінна быць прыкладам для сваіх дзяцей, удзельнічаць з імі ў жыцці Касцёла, быць заўсёды вернай запаведзям і Хрысту, гатовай абараніць веру. Святар звярнуў увагу на большую патрэбу супольнай малітвы ў сям'і, а такса ма на павышэнне ролі таты ў выхаванні будучага пакалення. Добры бацька павінен выхоўваць дзетак на прыкладзе Святой Сям'і з Назарэту.

Маліцца за дзяцей павінны не толькі “Маці ў малітве”, але ўсе вернікі і заўсёды. Калі дзеці перажываюць цяжкасці, то разам з імі суперажываць, калі радуюцца – радавацца з імі. Проста быць побач. Важна навучыцца глядзець на дзяцей і ўнукаў вачыма Бога Айца, Які ўклаў у кожнага шмат дароў. Бацькі павінны заўсёды памятаць пра гэта, развіваць і благаслаўляць кожнага, спрыяць іх духоўнаму выхаванню. Кожны хрысціянін пакліканы да ўдзелу ў ратаванні свету разам з Марыяй.

Важнасць малітваў да Нябеснай Маці добра разумеюць многія маладыя матулі з нашай супольнасці. Іх дзеці з маленства ведаюць, што такое Рараты, і з радасцю ходзяць на Імшу і катэхезу.

Пасля ўрачыстай Літургіі маці сабраліся ў святліцы, каб яшчэ раз памаліцца абавязковымі малітвамі руху, падзякаваць Богу за тое, што выбраў менавіта кожную з нас, адпачыць і ўдасканаліць узаемаадносіны ў супольнасці.

Цёплыя пажаданні і словы падзякі былі скіраваныя натхняльніку і галоўнаму каардынатару глыбоцкай суполкі Ядвізе Саўчанцы. Адзначылі яе запал і дасканаласць у выкананні сваіх абавязкаў, у арганізацыі і планаванні працы ў групе, пажадалі і надалей сваім жыццём сведчыць пра Хрыста і быць узорам для глыбоцкіх матуль.

За салодкім сталом было шмат размоў і ўзгадак пра цікавыя моманты з пілігрымак у Магілёў і Оршу, Рось і Усялюб, Гервяты і Гудагай.



# На тэрыторыі касцёла св. Ігнацыя ў Віцебску ўсталявалі кармушкі для птушак

**Незвычайная ініцыятыва паўстала ў парафіі святога Уладзіслава ў Віцебску. На пачатку снежня на тэрыторыі касцёла з'явіліся кармушкі для птушак.**

**Лаліта Арлоўская**

Айцец Віктар Жук, пробашч парафіі святога Уладзіслава, аб'явіў конкурс кармушак для птушак, каб заахвоціць дзяцей зрабіць невялікі падарунак для прыроды. Да дзяцей далучыліся бацькі. І ў пэўны момант удзел у конкурсе стаў сямейнай справай парафіян.

“Гэта ідэя прыйшла да мяне, калі я аднойчы заўважыў сінічку на тэрыторыі касцёла. Яна шукала штосьці з'есці, але нічога не было. Тады я падумаў, што будзе добра зрабіць у нас нешта, каб птушкі маглі жывіцца зімой, у час, калі амаль нічога на зямлі не расце”, – гаворыць айцец Віктар.

Некалькі сем'яў ужо прынеслі кармушкі.

Усіх удзельнікаў



ініцыятывы чакаюць цікавыя ўзнагароды. Хоць і сама магчымасць зрабіць добрую справу з'яўляецца ўжо ўзнагародай.

## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3** студзеня – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**6** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Вячаслаў Барок**;

**8** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Орша)*;

**12** студзеня – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Дунілавічы)*;

**18** студзеня – **гадавіну біскупскай сакры** адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**19** студзеня – **імяніны** адзначаюць **кс. Генадзій Ляўкоў**, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*;

**21** студзеня – **імяніны** адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**27** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. прэлат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**29** студзеня – **імяніны** адзначае **кс. Валерый Орсік** *(Дзеркаўшчына)*;

**31** студзеня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Тэст на “З”

**Запрашаем шаноўных чытачоў “Каталіцкага Весніка” зноў крыху паразважаць над пытаннямі віктарыны. На гэты раз усе словы пачынаюцца з літары “З”.**

**1** **Як звалі мытніка, які залез на дрэва, каб пабачыць Езуса?**



**А. Закхей**
**Б. Забулон**
**В. Зэбэдэй**

**2** **Як называецца дамова чалавека з Богам?**



**А. Запавет**
**Б. Запаведзь**
**В. Забарона**

**3** **Памяшканне, у якім захоўваецца ўсё, што звязана з набажэнствамі:**



**А. Закасцелле**
**Б. Закрыстыя**
**В. Званніца**

**4** **Правілы, якія дапамагаюць нам на шляху веры:**



**А. Забабоны**
**Б. Запаведзі**
**В. Заўвагі**

**5** **Як з габрэйскай мовы перакладаецца імя Езус? Бог...**



**А. Выходзіць**
**Б. Запрашае**
**В. Збаўляе**

**6** **З кім Езус параўноўвае Бога, каб паказаць нечаканасць свайго другога прыйсця?**



**А. Злодзей**
**Б. Земляроб**
**В. Зелот**

**7** **Адзін з дароў трох каралёў маленькаму Езусу:**



**А. Золата**
**Б. Зямля**
**В. Зерне**

**8** **Якая ўрачыстасць адзначаецца 25 сакавіка?**



**А. Зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі**
**Б. Звеставанне Пана**
**В. Завяршэнне Посту**

**9** **Як звалі бацьку Яна Хрысціцеля?**



**А. Захарыя**
**Б. Зарабабэль**
**В. Зэбэдэй**

**10** **Што Бог стварыў на трэці дзень?**



**А. Зямлю**
**Б. Зоркі**
**В. Звяроў**

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

# “Птушыны вянок”. У Віцебску праходзіць выстава твораў святара-мастака

**7 снежня ў музычнай гасцёўні ўстановы культуры Музей “Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва” адбылося адкрыццё выставы жывапісу пробашча Друйскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы ксяндза Сяргея Сурыновіча “Птушыны вянок”.**

■ **Алена Крывенькая,** *мастацтвазнаўца, тэкст;*
**Максім Маркевіч,** *фота*

На ёй прадстаўлены творы, выкананыя ў тэхніцы алею на палатне, натхнёныя разважаннямі святара над тэмамі і праблематыкай, узнятымі ў энцыкліцы Папы Францішка “Laudato si’”. Тут можна ўбачыць выявы птушак, якія сустракаюцца ў Беларусі, прычым многія з іх унесеныя ў Чырвоную кнігу. Таму лагічна, што ў вобразах крылатых жывых істот месціцца глыбокі духоўны падтэкст і заклік да больш уважлівага і адказнага стаўлення да прыроды.

У звароце да прысутных на пачатку імпрэзы а. Сяргей адзначыў: “Птушыны вянок” – маё вяртанне да жывапісу пасля працяглага перапынку. Але сэнсам майго жыцця, маім пакліканнем з’яўляецца святарства і служба людзям і Богу. А жывапіс, скажу шчыра, толькі адзін са сродкаў, які мне дапамагае ўбачыць Бога ў дэталях створанага Ім свету”.

Кс. Сяргей Сурыновіч высвечаны ў святары 11 лістапада 2001 г. у Санкт-Пецярбургу. Выконваў святарскую паслугу на Каўказе, Урале (г. Перм) і ў Калінінградзе. Пасля вяртання ў Беларусь служыў адміністратарам парафіі Святога Духа ў Віцебску, парафіі Божага Провіду ў Слабодцы Браслаўскага раёна. Цяпер – у знакамітай Друі.

На адкрыцці выставы прысутнічалі прадстаўнікі курыі Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь: канцлер кс. Віктар Місевіч і афіцыял Біскупскага суда кс. Аляксей Ляшко.

Кс. Аляксей Ляшко распавёў прысутным пра асноўныя вехі біяграфіі мастака: вучобу ў магістратуры, абарону дысертацыі ў галіне багаслоўя ў Латэранскім універсітэце ў Рыме, даследаванне гісторыі і спецыфікі перакладаў Бібліі на беларускую мову, абарону доктарскай дысертацыі.

З прывітальным словам да а. Сяргея і прысутных звярнуўся намеснік старшыні Віцебскага гарадскога выканаўчага камітэта Віктар Глушын.

Кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва мастацка-графічнага факультэта ВДУ імя П.М. Машэрава Міхась Цыбульскі адзначыў, што а. Сяргей Сурыновіч – мецэнат і арганізатар штогадовага Друйскага мастацкага пленэру, у якім ад 2016 г. прынялі ўдзел больш за 150 мастакоў з нашай краіны і замежжа. І што галоўнае ў выявах, прадстаўленых на цяперашняй выставе птушак, – позірк і характар, бо гэта не проста выявы, а партрэты.

Айцец Сяргей Сурыновіч – аўтар чатырох персанальных выставаў, якія адбыліся ў 2006–2007 гг. у музеі горада Цільзіта, музеі Крысціянаса Данэлайціса, Доме народнай творчасці ў Калінінградзе, Літаратурным музеі Віцебска.

Дасведчанасць і творчая натура дазваляюць а. Сяргею ўдала спалучаць здольнасці ствараць мастацкія вобразы сродкамі як жывапісу, так і літаратуры. Як літаратар ён дэбютаваў у 1998 г. пад псеўданімам Яўген Бартніцкі вершаванай містэрыяй для дзяцей “Батлейка”. Сёння ён – аўтар зборнікаў паэзіі “Летуценнік”, “Пакліканне”. З 2002 г. – аспірант кафедры агульнага мовазнаўства Пермскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. У 1999–2000 гг. рэдагаваў газету “Кгуліса” Таварыства беларусаў Санкт-Пецярбурга, якая была пераемніцай аднайменнай хрысціянска-дэмакратычнай газеты, першы нумар каторай выйшаў у 1917 г. у Петраградзе. Таму не дзіўна, што на адкрыцці выставы “Птушыны вянок” гучалі творы віцебскіх літаратараў Франца Сіўко, Людмілы Сіманёнак, а таксама прывітальнае слова былой загадчыцы Літаратурнага музея г. Віцебска Святланы Казловай.




Цёпла і шчыра віталі а. Сяргея ўдзельнікі першага Друйскага пленэру, сябры Беларускага саюза мастакоў Святлана Баранкоўская і Алег Скавародка. Салістка Віцебскай абласной філармоніі Тацццяна Моўля надавала імпрэзе ўзвышаны настрой цудоўным выкананнем музычных твораў на цымбалах.

А найлепшым падарункам сталася для яго, канечне ж, віншаванне ад друйскіх парафіянаў на чале са старшынёй сельскай рады Міхаілам Бакевічам. Яны адмыслова прыехалі ў гэты дзень у культурны цэнтр, каб засведчыць свайму пастыру павагу і прыязнасць.

Дырэктар Музея “Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва” Андрэй Духоўнікаў адзначаў высокі ўзровень мастацкіх пленэраў у Друі і паводле складу ўдзельнікаў, і паводле якасці твораў. Нездарма жыхары Друі вельмі прыязна і шчыра ставяцца да мастакоў і мастацтва. За шэсць гадоў існавання выставы па выніках пленэраў сталі падзеяй і паклалі пачатак прыватнаму збору мастацкіх твораў, якія вартыя найлепшых музейных залаў нашай краіны.

Айцец Сяргей Сурыновіч адзначыў, што ў сваёй творчасці абапіраецца на заўвагі і падказкі беларускіх мэтраў: Аляксандра Грышкевіча, Наталлі Залознай, Ілоны Касабукі, Дар’і Сумаравай-Копач. “Няма ніводнай працы, якая была б выканана мною без іх увагі, заўваг і парадаў. Яны мне вельмі шмат дапамагаюць і кансультуюць. На працягу 2022 г. я напісаў каля шасцідзесяці карцін з птушкамі. А перад гэтым вывучаў звесткі пра іх, апісанні, вышукваў фотаздымкі з розных ракурсаў праз Інтэрнэт, вывучаў дробныя дэталі. Мастакі часам выкарыстоўваюць пудзілы, але іх мала, цяжка знайсці, а калі шчыра, то мне было б цяжка працаваць з нежывым! Палова з таго, што напісаў, ужо разляцелася па свеце. У маіх працах для мяне самае галоўнае – быць шчырым”.

Выстава будзе экспанавацца ў Віцебску да 26 лютага, так што кожны, хто пажадае пазнаёміцца з працамі мастака-святара Сяргея Сурыновіча, мае такую магчымасць.



# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Людміла Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Чэслава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Алена Дзядова** *(Наваградак)*, **Кацярына Цатэвіч** *(Дзераўная)*, **Чэслаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **Даната Голубева** *(Бабінавічы)*, **сем’і Шакель і Ахрэмчык** *(Лугі)*, **Марыя Рачыцкая** *(Якубова)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Яніна Волк** *(Хацілы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Ганна Блажэвіч** *(Мядзел)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Кашкур А.П.** *(Павяцце)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Тэрэса Балтромун** *(Бастуны)*, **Яніна Шаркевіч** *(Жодзіна)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Юрашэк М.А.** *(Павяцце)*, **Галіна Сіманёнак** *(Паставы)*, **Марыя Талапіла** *(Зорка)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Жанна Сакалоўская** *(Камень)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Елізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Тэрэса Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Валянціна Лучэна** *(Слабодка)*, **Ганна Ермалёнак** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Гэлена Качаноўская** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Аліна Гайдзель** *(Слабодка)*, **Яніна Хвецковіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Саламея Ігнатовіч** *(Слабодка)*, **Лёля Шэмель** *(Усцье)*, **Станіслаў Сініца** *(Глубошчына)*, **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Марыя Мажэйка** *(Варапаева)*, **Ганна Кірплюк** *(Варапаева)*, **Чэслаў Клімовіч** *(Мядзел)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Станіслава Варэнік** *(Мінск)*, **парафіяне з Чашнікаў**, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Часлава Садоўская** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Святлана Ахрэмчык** *(Лугі)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Сафія Кашчыц** *(Навасады)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Караліна Сарока** *(Мінск)*, **Іосіф Гаеўскі** *(Прудцы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Тэрэса Хвайніцкая** *(Руткевічы)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Рэгіна Болюн** *(Петкунішкі)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Часлава Паўлючонак** *(Студзяніца)*, **Яніна Рагіня** *(Муцеўшчына)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# История освобождения от алкогольной зависимости

**Александр У. поделился с нами своей историей выздоровления. Долгое время он страдал от алкоголизма, но его жизнь изменилась. Это произошло в 1997 году, и с тех пор Александр не употребляет алкоголь.**

– Алкоголь стал присутствовать в моей жизни со среднего школьного возраста. Моё детство проходило во дворе, пока родители были на работе. За мной смотрели братья, которые были старше меня на 5 – 6 лет, повторял за ними всё, что они делали. Курить я начал примерно в третьем классе, употреблять алкоголь – немного позже. Тогда, в школе, алкоголь уже стал для меня проблемой. На выпускном я напился так сильно, что меня пришлось вести домой, я был в очень плохом состоянии.

Во взрослой жизни я долго не замечал в этом проблемы, думал, что так делают все. Объяснял свою слабость тем, что у меня такая работа. Мне нужно было часто взаимодействовать с людьми, и каждый раз это было застолье, и, разумеется, алкоголь. Вместе с тем моё употребление на этом не заканчивалось. Когда все расходились по домам, я продолжал пить. Из-за такого образа жизни часто попадал в неприятные места или ситуации. Но я считал, что это всё – только стечение обстоятельств.

Мне было около 33 лет, когда я понял, что так жить нельзя. Первые мысли появились после второго развода. Первый развод произошёл потому, что выпивала моя супруга. Во втором я не мог обвинять кого-то, кроме себя. Обычно я подстраивал семью под свои приоритеты, во многом это была работа, на которой я проводил практически всё свое время. Я объяснял это тем, что действую на благо семьи, но на самом деле это нужно было для того, чтобы удовлетворять мои потребности. В том числе и алкоголь.

Тогда я всё же оттолкнул эти мысли, смирившись, что вторую семью я тоже потерял. Продолжил жить, как раньше, но теперь я ощущал какую-то неопределённую внутреннюю пустоту. Это ощущение подталкивало меня к мысли, что так дальше жить я всё же не хочу, хоть и понимал, что не смогу бросить пить.

Мой начальник и хороший друг в то время мне очень помог наконец прислушаться к мыслям, от которых я всё время бежал. В тот день я встретил его на работе и попросил дать мне денег в долг, потому что у меня их уже не хватало. Он отдолжил мне, но очень просил съездить по адресу, который мне назовёт. Когда я приехал туда и увидел, что это наркология, мне захотелось разбить ему лицо. Мне казалось, что он издевается. На самом деле во всей этой ситуации меня больше задело, что о моей проблеме знает кто-то, кроме меня.

Но в тот день я всё же присоединился к группе. Почему? К тому моменту я понимал, что со мной что-то происходит и хотел это исправить.

По началу, когда я пришёл в группу, я не думал, что откажусь от алкоголя совсем. Помню, у меня было желание научиться пить. Мне казалось, что, если я выпью немного, у меня всё будет в порядке. Вопрос только в том, как остановиться. Я не понимал суть своей проблемы. Я не знал, что во время употребления у меня запускается механизм, который остановиться не может.

Около года после начала моей трезвой жизни, сорвался мой знакомый, и я поехал к нему домой, чтобы поддержать. Он пил к тому времени уже четыре дня. То, что я там увидел, меня шокировало. Тогда я впервые подумал, что алкоголизм – дело серьёзное. А в излечении речь идёт о том, чтобы не употреблять вообще и вести нормальный образ жизни, или употреблять и жить так, как он.

Несмотря на все мои стремления, по началу было сложно. Так или иначе я сталкивался со своим прежним окружением, а практически все мои друзья тогда употребляли. Но когда мне хотелось выпить, перед глазами возникал тот образ сорвавшегося знакомого. И страх стать на него похожим поддерживал моё стремление оставаться трезвым. После этого я пить уже не мог. Но не пить тогда казалось невыносимым. Наверное, это переходное состояние было самым сложным.



Тогда я прекрасно понял, что мне самому справиться не получиться. Я стал обращаться к Богу. Так же я понял, что Бог действует через людей, среди которых я тогда старался искать поддержку. В то время мне очень помогли группы АА. Я стал работать по программе двенадцати шагов, которая позволила мне начать бороться с причинами моего алкоголизма. Тогда мне пришлось многие вещи учиться делать заново. Например, строить отношения с детьми, потому что оказалось, что, пока я пропадал на работе или употреблял, они выросли без меня.

До моего знакомства с группой АА и программой двенадцати шагов я употреблял двадцать пять лет, и употреблял серьёзно. Теперь идёт уже 25-ый год моей трезвости. Сейчас я могу вести образ жизни здорового человека. Я очень благодарен за это Богу и тем, кого Он мне поставил на этом пути.

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

**Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"**

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6
МТС +375 (33) 345 52 78;
8 (02157) 3-30-44
Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

### *Хвала Хрысту!*



*Паважаны **ксёндз Ян Пугачоў**!*

*З надыходам свята Божага Нараджэння дасылаем Вам сардэчныя пажаданні: няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш святарскі шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апякуецца ў кожную хвіліну жыцця. Спакойных і ясных дзён у Вашым святарскім служэнні!*

*Мы Вас любім і жадаем моцнага здароўя, даўгалецця, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху.*

***З вялікай павагай, малітвай і ўдзячнасцю, вернікі капліцы Св. Мікалая ў в. Сталіца***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Паважаны **ксёндз Вячаслаў Адамовіч**!*

*Сардэчна віншуем Вас з Божым Нараджэннем, са святам Божай Любові!*

*Няхай святло Святога Духа асвячае Вас на ўсіх пастырскіх шляхах, а Маці Божая мае Вас у сваёй апецы! Няхай усмешка заўсёды будзе на Вашых вуснах!*

*Мы, вернікі, вельмі ўдзячныя Вам за ўсё, што робіце для нас! Мы Вас любім і заўсёды чакаем у нашых капліцах!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі капліц з Дзедзіна і Забалоцця***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч**!*

*Сардэчна віншуем Вас са святам Божага Нараджэння!*

*Няхай Вамі апякуецца Маці Божая, няхай плывуць бясконца дары Святога Духа, а Анёлы і святыя хай вядуць Вас па жыццёвых шляхах!*

***З удзячнасцю, вернікі руху АДДЧ з касцёлаў у Мёрах, Ідолце, Павяцці***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!!*

*Паважаныя **галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" ксёндз Віктар Місевіч і ўсе супрацоўнікі рэдакцыі, а таксама ўсе паважаныя святары!***

*Ад усяго сэрца шчыра віншуем Вас з надыходам Божага Нараджэння і новага 2023-га года!*

*Няхай святло і радасць Божага Нараджэння асвячае святарскую працу і шчодра адорыць усімі неабходнымі ласкамі за мудрае абвяшчэнне Божага слова і штодзённае служэнне Богу і людзям! Няхай апека Маці Божай дадае сіл і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе і ахінае сваёй любоўю і апекай!*

*Дасылаем усім святарам нізкі паклон, а таксама словы ўдзячнасці бацькам за сыноў-святароў і зычым здароўя і даўгалецця Вашым родным і блізкім, радасці, спакою і Божага благаславення на ўвесь надыходзячы 2023 год! Са святам!*

***Ад усіх вернікаў Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай – Ядвіга Жолнер***



### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Шаноўны **ксёндз Валерый Пупкевіч**!*

*Віншуем Вас з першай гадавінай святарскага пасвячэння (30 снежня). І хоць Вы служыце Богу і людзям далёка, парафіяне Паставаў памятаюць Вас і ганарацца тым, што Вы тут прыйшлі да Бога, тут узрасталі ў Ім і адказалі на Яго заклік. Мы молімся за Вас, каб крыж, дадзены Вам Богам, не быў Вам ніколі цяжкім, а толькі дапамагаў рухацца да Яго і весці за сабою іншых.*

*Просім Бога, каб справы, дaручаныя Вам Богам, множыліся няспынна, каб здзяйсняліся ўсе планы і задумы!*

*Жадаем Вам на доўгія гады Божай ласкі, плёну ў духоўным служэнні людзям і Айчыне, святарскага шчасця ад навяртання да Бога і веры скалечаных душаў! Няхай апека Маці Божай і Анёла-ахоўніка дазволіць здзейсніцца ўсім Вашым самым светлым марам і памкненням!*

*Мы памятаем і молімся за Вас!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах***

### *Хвала Хрысту!*

*Шчыра віншуем са святам Божага Нараджэння нашых шаноўных **ксяндза-пробашча Мікалая Ціхановіча і ксяндза-вікарыя Алега Зямчонка**! Таксама **ўсіх святароў**, якія раней служылі ў Глыбоцкай парафіі, і **сясцёр законных,** каторыя дапамагаюць дзецям і моладзі ўзрастаць духоўна!*

*Няхай для ўсіх Вас ясным святлом заззяе Бэтлеемская зорка, прынясе шчасце і супакой! Няхай Дзіцятка Езус удзеліць благаславенне, здароўе, дапамогу ў нялёгкім служэнні і ўсе неабходныя ласкі!*

***З удзячнасцю і малітвай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

### *Хвала Хрысту!*

*Шаноўны **ксёндз Віталь Венцкевіч**!*

*Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага шчыра віншуюць Вас з днём народзінаў, які Вы адсвяткавалі 13 снежня!*

*Вы зрабілі яшчэ толькі першыя крокі на святарскім шляху, але яны былі ўпэўненыя, годныя, поўныя любові да Бога і людзей. Ваша вера, малады запал і прыклад Вашага жыцця натхняюць нас.*

*З нагоды дня народзінаў жадаем Вам духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі і ажыццяўлення ўсіх душпастырскіх планаў! Жадаем весці за сабой не адно пакаленне і дапамагчы знайсці сапраўдную дарогу тым, хто заблукаў у гэтым жыцці. Зычым Вам Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай!*

*Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ўсё тое, што Вы робіце!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах***

### *Хвала Хрысту!*

*Паважаныя **ксёндз Віктар і рэдакцыйны калектыў "Каталіцкага Весніка"**!*

*Прыміце сардэчныя віншаванні са святам Божага Нараджэння і новым 2023-м годам!*

*Няхай Вас ніколі не пакідае вера ў лепшае, а ўсе планы, задумкі і мары збудуцца! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, Божай ласкі і душэўнага спакою! Няхай прымножацца здабыткі мінулага году!*

***З павагай, Іосіф Мар'янавіч і Юзэфа Феліксаўна Гаеўскія (в. Прудцы, Шчучынскі р-н)***

## Трэнер зборнай Харватыі падарыў аргенцінскаму футбалісту Біблію і ружанец

**Былы футбаліст зборнай Аргенціны форвард Рубэн Сэкка распавёў, што Златка Даліч, трэнер зборнай Харватыі на цяперашнім чэмпіянаце свету па футболе, падарыў яму яшчэ ў 2009 годзе Біблію і ружанец.**

Святыя рэчы для кожнага хрысціяніна трэнер прывёз з Ватыкана, з папскім благаслаўленнем. Пра гэтую падзею ў размове з Radio Mitre in Rosario нагадаў Рубэн Сэкка, дадаўшы, што Біблію і ружанец узяў з сабой дадому як надзвычай каштоўныя сувеніры.

У 2009 годзе аргенцінскі футбаліст гуляў у албанскім клубе "Dinamo Tirana", трэнер якога тады быў чальцом цяперашняй адборачнай камісіі Харватыі. Менавіта ён прывёз з Ватыкана і падарыў Святое Пісанне і ружанец, які Папа благаславіў. "Я трымаю іх дома, і такім чынам паказваю, што ён мяне вельмі любіў", – кажа Сэкка, якому цяпер 39 гадоў. Футбаліст падкрэслівае, што, харвацкі трэнер "заўсёды прасіў мяне захоўваць веру ў Бога".

У 2017 годзе Златка Даліч неўзабаве пасля таго, як стаў трэнерам нацыянальнай каманды сваёй краіны, сказаў у інтэрв'ю: "Усім, чаго я дасягнуў у жыцці і ў сваёй прафесійнай кар'еры, я абавязаны майму любімаму Богу". Ён таксама нагадаў, што ў дзяцінстве быў міністрантам і з задавальненнем служыў падчас Імшы ў францішканскім кляштары побач з домам сваіх бацькоў.

"Я быў шчаслівы, калі мог пайсці на Імшу. Мая маці вучыла мяне і кіравала маёй верай. Я заўсёды быў вернікам і так выхоўваў сваіх дзяцей. Кожную нядзелю стараюся хадзіць на Эўхарыстыю", – гаворыць 56-гадовы трэнер. Златка Даліч таксама сказаў, што ён прыхільнік Ружанца і заўсёды мае яго пры сабе. "Калі я адчуваю, што перажываю нейкія цяжкія моманты, я суну руку ў кішэню, дакрануся да яго, і тады становіцца лягчэй", – прызнаецца харват.


Златка Даліч

Напярэдадні паўфіналу паміж Харватыяй і Аргенцінай па радыё гучалі ўспаміны Рубэна Сэкка пра падарунак ад былога трэнера. Аргенціна выйграла з лікам 3:0 і першай выйшла ў фінал чэмпіянату свету па футболе ў Катары. У фінале 18 снежня зборная Аргенціны гуляла з камандай Францыі.

*По матэрыялах CREDO*
*Пераклад*
***Марыны Сінкевіч***

# Пытанне святару. Як стаць каталічкай?

***– Хвала Хрысту! Я ахрышчаная ў праваслаўную веру двойчы. У савецкі час немаўляткам была ахрышчаная дома, але, можа, і не святаром нават, і неафіцыйна... І вось я ўжо праваслаўная. Будучы дарослай, я паўтарыла абрад у праваслаўі, бо была ўпэўнена, што ўжо ўзятую рэлігію змяніць нельга. Але з цягам часу жыццёвыя абставіны пераканалі мяне ў намеры стаць каталічкай, тым больш што, як высвятляецца па ўспамінах, мая прабабуля жыла згодна з каталіцкімі традыцыямі. Мая маці – атэістка, але з павагай ставіцца да Касцёла. Раней я даведалася, што можна ўсё ж такі прыняць каталіцтва. Я з радасцю прайду катэхізацыю, але тут і ёсць пытанні...***

***Першае, я ўжо ў шлюбе, і мой муж – атэіст савецкага выхавання (я, аднак, не пакідаю надзеі), ён хоча, каб дзеці выбралі, прыняць хрост ці не, самастойна, а не ў маленстве. Як паставіцца Касцёл да майго намеру прыняць каталіцтва ў сувязі з існым хростам і маім змешаным з пункту гледжання рэлігіі шлюбам? Як я разумею, католікі вельмі сур'ёзна ставяцца да шлюбу, і мне крыху няёмка, адчуваю сябе дысідэнткай, але менавіта каталіцкая малітва дапамагае мне. Дзякуй.***

– Хвала навекі! Рашэнне стаць каталічкай, безумоўна, важнае і, гледзячы на Вашае пытанне, добра абдуманае. Яго параўнальна проста ажыццявіць, аднак гэта патрабуе пэўнага часу.

Спачатку я Вам раю пачаць чытаць Біблію, Катэхізіс Каталіцкага Касцёла і браць удзел у святой Імшы, у той парафіі, да якой Вы тэрытарыяльна належыце. Вядома, не прыступаючы да сакрамантаў, бо іх можа прымаць толькі той, хто знаходзіцца ў поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам. У гэты ж самы час пазнаёмцеся з пробашчам парафіі і выкажыце яму жаданне стаць каталічкай, паведамляючы, што сакрамант хросту Вы ўжо прынялі. Думаю, што пробашч таксама параіць Вам праз пэўны час браць удзел у святой Імшы, а пазней прапануе больш значны крок – распачаць сур'ёзную катэхізацыю. Пасля перыяду падрыхтоўкі праз вызнанне веры здзяйсняецца абрад прыняцця да поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам. Звычайна гэты абрад адбываецца падчас Эўхарыстычнай цэлебрацыі. Аднак трэба ўлічваць тое, што Вы ўжо былі ахрышчаныя ў Праваслаўнай Царкве, і таму, прыняўшы каталіцтва, Вы станеце каталічкай усходняга абраду.

Тое, што датычыць сужэнства, то для Касцёла з'яўляецца сапраўдным толькі сакрамантальнае сужэнства – "сужэнскі саюз, праз які мужчына і жанчына ўтвараюць паміж сабой супольнасць усяго жыцця, скіраваную па сваёй прыродзе да дабра сужэнцаў, а таксама да нараджэння і выхавання патомства". Таму паміж ахрышчанымі не можа існаваць дзейсны сужэнскі дагавор, які тым самым не быў бы сакрамантам" (кан. 1055 Кодэкса Кананічнага Права). Як вынік, сужэнства, заключанае ў грамадзянскіх органах, не дае права прыступаць да сакрамантаў Касцёла.

Таму Вам з мужам трэба будзе заключыць кананічнае сужэнства, кажучы простай мовай – павянчацца. Для гэтага трэба будзе прайсці этап падрыхтоўкі. Згодна з Інструкцыяй аб падрыхтоўцы да сакраманту сужэнства ў Каталіцкім Касцёле і душпастырстве сем'яў, якая была прынята на Сінодзе Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій, у падрыхтоўцы маладых да заключэння сакраманту сужэнства вылучаюцца тры этапы: першапачатковая падрыхтоўка (ахоплівае ўвесь перыяд выхавання), наступная падрыхтоўка (ахоплівае перыяд ад 16 гадоў жыцця да пачатку непасрэднай падрыхтоўкі) і непасрэдная падрыхтоўка (перадшлюбная катэхізацыя, якая павінна праводзіцца прынамсі на працягу трох месяцаў перад сакрамантам Сужэнства).

На жаль, у пытанні не ўдакладнена, ці ахрышчаны Ваш муж (і дзе?), ці не.

Калі ён ахрышчаны ў Праваслаўнай Царкве, то неабходна будзе папрасіць у ардынарыя месца дазвол на заключэнне змешанага сужэнства, падпісваючы гарантыі і прысягі аб тым, што Вы як каталічка гатовы прадухіліць небяспеку страты веры, што будзеце выконваць рэлігійныя абавязкі і шчыра прысягаеце зрабіць усё, каб патомства было ахрышчана і выхавана ў Каталіцкім Касцёле. Ваш муж, са свайго боку, павінен будзе запэўніць, што ён паінфармаваны аб узгаданых вышэй гарантыях і прысягах і што ён усведамляе іх сэнс, а таксама Вашыя абавязкі, як каталічкі.

Калі ён не ахрышчаны, то "сужэнства паміж дзвюма асобамі, адна з якіх была ахрышчана ў Каталіцкім Касцёле або прынята ў яго, а другая не была ахрышчана, з'яўляецца несапраўдным" (кан. 1086 § 1 ККП). Каб заключыць сапраўднае сужэнства паміж асобай, ахрышчанай у Каталіцкім Касцёле або прынятай у яго, і асобай не ахрышчанай, трэба прасіць дыспенсацыю ад перашкоды рознай рэлігіі.

Няхай Вас не пужае гэтая практыка, бо ўсёй дакументацыяй перад заключэннем сужэнства будзе займацца пробашч. Дарэчы, ён пры неабходнасці ад Вашага імя будзе прасіць у ардынарыя месца дазвол альбо дыспенсацыю ад наяўнай перашкоды.

Што датычыць сакраманту хросту, то ў Касцёле існуюць дзве магчымасці яго прыняцця: у дарослым узросце і адразу пасля нараджэння. Аднак перад удзяленнем сакраманту хросту павінна адбыцца адпаведная падрыхтоўка дарослага чалавека, які мае яго прыняць, а ў выпадку хросту дзіцяці – падрыхтоўка бацькоў і яго хросных.

Згодна з прадпісаннямі нормаў Кананічнага Права, бацькі, паколькі далі сваім дзецям жыццё, маюць вельмі вялікі абавязак і права іх выхавання. Бацькі-хрысціяне павінны ў першую чаргу дбаць, каб іх дзеці былі выхаваны згодна з вучэннем, якое перадае Касцёл. Дзеці маюць патрэбу ў сакраманце Хросту, каб вызваліцца ад першароднага граху і ўвайсці ў "ранг" дзяцей Божых, да якога, дарэчы, пакліканы ўсе людзі.

Менавіта таму Касцёл заахвочвае бацькоў, каб іх дзеці былі ахрышчаны ў першыя тыдні, як мага хутчэй пасля нараджэння. І яшчэ перад нараджэннем дзіцяці бацькі павінны звярнуцца да пробашча, каб прасіць пра сакрамант хросту для малога і належным чынам да яго падрыхтавацца (кан 867 § 1 ККП).

*З малітвай і павагай,*
***кс. Аляксей Ляшко***

## Дар Марыі

**У гэтым годзе была ў Будславе на фэсце. Вельмі хацела набыць для сябе кніжку "Дзённік святой Фаўстыны".**

Доўга хадзіла ў пошуках гэтай кніжкі і нарэшце ў адным з намётаў знайшла. Жанчына-прадавец была вельмі добрая і ветлівая. Пазнаёміліся, паразмаўлялі. Яна з радасцю дала нумар тэлефона і напісала сваё імя – Антаніна.

Прайшоў час, я вырашыла замовіць кніжкі "Таямніца шчасця", "Кроў Хрыста, выбаў нас", "Марыя, Якая развязвае вузлы". Ідзе зіма, працы ў вёсцы менш, будзем чытаць. Антаніна выслала кнігі па пошце. Хутка іх усе разабралі.

Замовіла яшчэ, але ўсе пра Марыю, Якая развязвае вузлы. Не давялося доўга чакаць, хутка прыйшла пасылачка. У ёй была кніжачка "Дар Марыі" пра Маці Божую, Якая аб'явіла цудоўны медалік. Прачытала яе і падумала, што ў мяне ж ёсць такі медалік! Перад святам Божага Нараджэння з Баранавіч нам прыслалі стаенкі, свечачкі вельмі прыгожыя, якія робяць сёстры законныя, а яшчэ многа медалікаў, каб раздаць ахвотным. Прыносіла іх у капліцу, людзі разбіралі. Застаўся ў мяне адзін медалік, паклала яго ў маленькую скрыначку, бо баялася згубіць. А цяпер прачытала надпіс на медаліку на польскай мове: "О Марыя, без граху перароднага зачатая, маліся за нас, хто ў Цябе паратунку шукае" і дзіву далася. Думала, што за дар Марыі, для каго? Для мяне, для маёй сям"і, для Касцёла, для нашай Беларусі?

Выпісваю "Каталіцкі Веснік", з нецярпеннем гляджу ў паштовую скрынку, калі ж прыйдзе газета. І вось, чытаючы яе, убачыла той самы медалік у "Каталіцкім Весніку". Сапраўдны цуд! Вось дар з неба! Медалік нашу, ён – мой. Чытаю навэнну і, калі дазволіць Бог, буду маліцца да 2030 года (будзе 200 гадоў аб'яўлення Маці Божай святой Кацярыне Лябурэ), выпрошваючы Божыя ласкі для сябе, для маёй сям'і, для Касцёла і для ўсяго нашага народа.

***Альдона***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# У Нацыянальнай бібліятэцы прэзентавалі Кодэкс кананічнага права ў беларускім перакладзе з апошнімі зменамі, унесенымі Папам Францішкам

**15 снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя першага выдання Codex iuris canonici (Кодэкса кананічнага права) са зменамі, унесенымі ў апошні час Святым Пасадам у галоўны збор юрыдычных нормаў Касцёла лацінскага абраду, і з перакладам на беларускую мову.**

**■ кс. Мікола Гракаў, тэкст; кс. Аляксандр Улас, фота *Catholic.by***




У прэзентацыі ўнікальнага выдання ўзялі ўдзел іерархі Касцёла ў Беларусі, прадстаўнікі дзяржаўнай улады, дыпламаты, святары, спецыялісты ў галіне кананічнага і дзяржаўнага права з нашай краіны і з-за мяжы, прадстаўнікі Беларускай Праваслаўнай Царквы, іншых канфесій і рэлігій.

Мерапрыемства, арганізаванае Апостальскай нунцыятурай у Рэспубліцы Беларусь, адбывалася пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Напачатку ўсіх сабраных у канферэнц-зале галоўнага кнігасховішча краіны прывітаў Апостальскі нунцый Антэ Ёзіч.

Прадстаўнік Папы Францішка ў Беларусі адзначыў, што Кодэкс кананічнага права – адзін з асноўных прававых дакументаў Каталіцкага Касцёла, які быў абнародаваны ў Ватыкане Папам Янам Паўлам II амаль 40 гадоў таму, 25 студзеня 1983 года. Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі пры падтрымцы Апостальскай нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь пераклала Кодэкс лацінскага абраду на беларускую мову, каб духавенства і ўсе зацікаўленыя маглі атрымаць доступ да кананічнага заканадаўства на сваёй мове. Кодэкс быў выдадзены ў арыгінальнай лацінскай версіі і ўключае ў сябе ўсе абнаўленні, якія Каталіцкі Касцёл унёс за апошнія гады, асабліва падчас цяперашняга пантыфікату Папы Францішка. Нунцый Ёзіч нагадаў, што ў лютым гэтага года Святы Пасад змяніў або перагледзеў 151 канон Кодэкса, даручыўшы каталіцкім біскупам больш кампетэнцый.

Прадстаўнік Святога Айца выказаў падзяку ўсім спецыялістам, якія ўдзельнічалі ў перакладзе Кодэкса на беларускую мову і яго выданні, а таксама тым, хто матэрыяльна падтрымаў праект, у прыватнасці, нямецкай дабрачыннай арганізацыі Renovabis.

"Святы Пасад мае надзею, што гэта важнае дасягненне палегчыць вывучэнне і прымяненне касцельнага заканадаўства, а таксама стане доказам імкнення Каталіцкага Касцёла ўключацца ў рэчаіснасць, у якой ён жыве, узбагачаючы яе хрысціянскім духам для дабра ўсяго беларускага народа", – сказаў нунцый Антэ Ёзіч.

Пасля яго да сабраных звярнуўся Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Аляксандр Румак.

У сваёй прамове прадстаўнік дзяржаўнай улады падкрэсліў, што родная мова мае асаблівае значэнне для самавызначэння народа, для захавання яго ўласнай тоеснасці, і заахвоціў каталіцкае духавенства шырэй карыстацца беларускай мовай у ажыццяўленні душпастырскай дзейнасці.

Упаўнаважаны выказаў упэўненасць, што гэтаму паспрыяе таксама з'яўленне беларускага перакладу Кодэкса, які будзе выкарыстоўвацца у парафіях, а таксама ў працэсе навучання і падрыхтоўкі будучых святароў.

Намеснік Міністра замежных спраў Юрый Амбразевіч зачытаў прывітальны адрас, які з нагоды прэзентацыі Кодэкса кананічнага права з беларускім перакладам скіраваў Сяргей Алейнік. Новапрызначаны кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі адзначыў у ім важнасць рэалізаванага пры падтрымцы Апостальскай нунцыятуры праекту для паглыблення і развіцця ўзаемадзеяння дзяржавы і Касцёла.

Быў зачытаны таксама прывітальны адрас Старшыні Дыкастэрыі заканадаўчых тэкстаў арцыбіскупа Філіпо Янонэ, скіраваны на імя Апостальскага нунцыя Антэ Ёзіча.У ім высокі ватыканскі іерарх падзякаваў нунцыю за дасланы экземпляр выдання, а таксама выказаў віншаванне беларускаму каталіцкаму епіскапату з паспяхова здзейсненым перакладам асноўнага заканадаўчага тэксту Касцёла, асабліва адзначыўшы ўсіх кампетэнтных спецыялістаў, якія прычыніліся да гэтай справы.

Генеральны сакратар ККББ біскуп Юрый Касабуцкі зачытаў прывітальны адрас Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскупа Віцебскага Алега Буткевіча. У ім кіраўнік беларускага каталіцкага епіскапату назваў пераклад Кодэкса кананічнага права на беларускую мову "неардынарнай і адметнай падзеяй для жыцця каталіцкага Касцёла ў Беларусі".

"Гэта нагода для гонару, а перадусім для ўдзячнасці Богу і Яго Провіду, які дазволіў вернікам каталіцкай супольнасці адной з самастойных краін у цэнтры Еўропы нарэшце адчуваць сябе паўнавартаснымі ўдзельнікамі паўсюднага Касцёла таксама і ў прававой галіне.

Можна лічыць гэта яшчэ адным крокам і знакам на шляху адраджэння Касцёла ў Беларусі пасля эпохі атэістычнага пераследу, вяртання да нармальнасці ў выкананні сваіх функцый і абавязкаў", – напісаў біскуп Алег Буткевіч, які асабіста не змог узяць удзелу ў прэзентацыі.

Другая частка мерапрыемства была прысвечаная вопыту падрыхтоўкі Кодэкса ў 1983 годзе і яго першых перакладаў у былых савецкіх рэспубліках.

Прысутныя паглядзелі відэазварот монсеньёра Бруно Фабіё Пігіна, прафесара з Папскага ўніверсітэта кананічнага права ў Венецыі (Італія), які назваў галоўнага перакладчыка Кодэкса на беларускую мову ксяндза-каноніка Дзмітрыя Пухальскага "адным са сваіх найлепшых вучняў".

Рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу (Расія) монсеньёр Сяргей Цімашоў распавёў прысутным пра вопыт перакладу тэксту Кодэкса на рускую мову, які рабіўся пры актыўным удзеле былога Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Івана Юркавіча і цяперашняга нунцыя арцыбіскупа Антэ Ёзіча падчас іх працы ў Маскве. Пра асаблівасці перакладу Кодэкса на літоўскую мову, праца над якім вялася больш за пяць гадоў, распавёў удзельнікам прэзентацыі монсеньёр Рамуальдас Зданіс з Панявежыса.

Гэтыя два пераклады сталі першымі, зробленымі на тэрыторыі былога СССР, а беларускі пераклад стаў трэцім у гэтым шэрагу.

Пра працу над ім распавялі два святары, якія супольнымі намаганнямі яго здзейснілі. Прамову ксяндза-каноніка Дзмітрыя Пухальскага з Мінска дапоўніў кансультант Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі па юрыдычных пытаннях ксёндз-канонік Андрэй Зноска з Ліды, які актыўна падключыўся да праекту і паспрыяў яго завяршэнню ў рэкордна кароткі тэрмін.

Пра значэнне беларускага перакладу Кодэкса для партыкулярнага Касцёла ў Беларусі сказаў у сваім выступе Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, пасля чаго адбылася сімвалічная перадача экземпляраў Кодэкса прадстаўнікам касцельных і свецкіх інстытутаў Беларусі.

Надрукаваныя ў Вільні кнігі атрымалі, між іншым, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў і Міністэрства юстыцыі, Міждыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі і тэалагічных каледжаў у Мінску і Гродне, прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы і Супольнасці прагрэсіўнага юдаізму, а таксама Генеральны дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Аксана Кніжнікава, якая, дзякуючы за дар, выказала задавальненне тым, што прэзентацыя такога важнага для беларускай прававой культуры выдання адбываецца менавіта ў Нацыянальнай бібліятэцы.

Кодэкс кананічнага права з беларускім перакладам будзе на бязвыплатнай аснове перададзены ў касцельныя структуры і бібліятэкі Беларусі.

На заканчэнне ўрачыстага мерапрыемства Апостальскі нунцый Антэ Ёзіч яшчэ раз падзякаваў усім, хто прычыніўся да выхаду ў свет выдання, і ўручыў Апостальскае благаслаўленне Папы Францішка рэдактару беларускага тэксту – загадчыцы кафедры беларускага і супастаўляльнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, выкладчыцы беларускай мовы ў Міждыяцэзіяльнай семінарыі ў Гродне Алене Садоўскай.



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

Дарагі сябра! “Пазнавайка” падрыхтавала для цябе шмат цікавых заданняў пра цудоўнае свята Божага Нараджэння! Выконваючы іх, зараджайся святочным настроем разам з “Каталіцкім Веснікам”.

## 1.

Цудоўны час засяродзіцца, задумацца і падрыхтаваць свае сэрцы да Нараджэння нашага Збаўцы! Напішы свае думкі, працягнуўшы наступныя выказванні.

Дарагі сябра! Калі ты думаеш пра Божае Нараджэнне, то адчуваеш ______

Якія добрыя ўчынкі ты можаш і хочаш зрабіць у святочны перыяд? ______

Якія пажаданні хочаш скласці для родных, блізкіх і сяброў? ______

За што асабліва хочаш памаліцца ў час Божага Нараджэння? ______

## 2.

Знайдзі дарогу да стаенкі, правільна прайшоўшы праз лабірынт!



## 3.

Знайдзі цень да кожнага падарунка. Злучы ўсё правільна стрэлкамі!



## 4.

Правільна адкажы на наступныя пытанні. Калі ўзнікнуць пэўныя цяжкасці, папрасі дапамогі ў дарослых!


У якім горадзе нарадзіўся Езус? ______


Як Езуса знайшлі пастушкі? ______


Адкуль пастухі ведалі, што нарадзіўся Збаўца? ______


Чаму Марыя і Юзаф пайшлі ў Бэтлеем? ______


Хто на небе праслаўляў нараджэнне Божага Сына? ______

## 5.

Знайдзі 10 адрозненняў!



## 6.

Прачытай у правільным парадку!




______

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Самы вядомы гімн каханню ў новым беларускім перакладзе

**Сёлета споўнілася дзесяць гадоў ад моманту заснавання праекту "Новая Беларуская Біблія". У 2012 г. чатыры гебраісты, чатыры элiнiсты, тры літаратары, два дактары навук і два дактары біблеістыкі пачалі пераклад Пісання на сучасную беларускую мову. Перакладу, які б стаяў над беларускімі канфесійнымі падзеламі. Нягледзячы на вялікую зробленую працу, першая перакладзеная кніга выйшла толькі ў гэтым годзе. "Песня Песняў" у перакладзе Сяргея Шупы і з каментарыямі Галіны Сінілы была надрукаваная ў Празе.**

**Навошта свецкаму чалавеку тлумачыць Біблію?**

Сяргей Шупа пачаў займацца перакладам Пісання яшчэ ў канцы 80-х гадоў XX стагоддзя. Як малады перакладчык з веданнем моваў арыгіналаў ён далучыўся да Біблійнай камісіі Беларускага экзархату Рускай праваслаўнай царквы. Аднак з-за канцэптуальных разыходжанняў значная частка інтэлігенцыі пакінула гэту групу. У тым ліку і Сяргей Шупа. Пасля таго праца над перакладам Бібліі адышла ў яго жыцці на другі план.

Праз амаль два дзясяткі гадоў, падчас аднаго з Кангрэсаў даследчыкаў Беларусі ў Коўне, арганізоўваецца секцыя "Беларуская Біблія. Праблемы і перспектывы навуковага перакладу на беларускую мову". Больш за дзесяць кваліфікаваных спецыялістаў вырашаюць працаваць над "агульнабеларускай Бібліяй". "Гэта шок для ўсяго свету, калі мы гаворым, што беларусы не могуць нават разам сказаць імя Хрыста, што ў нас існуе некалькі варыянтаў, як мінімум тры: ёсць Ісус, Езус, Ісус", – казала ў адным з інтэрв'ю доктар філасофіі і тэалогіі, прафесар Ірына Дубянецкая.

У працу секцыі ўключаецца, між іншым, і Сяргей Шапран. "Мы хацелі зрабіць такі навуковы пераклад, які пры жаданні любая канфесія магла б адаптаваць для сябе. Мы хацелі быць карыснымі для ўсіх", – распавядае перакладчык. У 2016 г. чальцы групы дамаўляюцца выдаць плады сваёй працы ў сувязі з юбілеем – пяцісотгоддзем беларускага кнігадрукавання, аднак па розных прычынах план не ажыццяўляецца. У 2022 г. выходзіць першая кніга "Новай Беларускай Бібліі" – "Песня Песняў". Пры гэтым дзве трэція выдання – гэта прадмова і каментарыі да перакладу.

**Чаму "Песня Песняў"?**

"Без гэтага тэксту на пэўнай мове культура гэтага народа не можа быць цалкам паўнавартаснай", – мяркуе Сяргей Шапран. Новы пераклад "Песні Песняў" не з'яўляецца першаадкрывальніцкім.

Яе перакладалі нават да Скарыны – на ўмоўную царкоўнаславянскую беларускага ўхілу. У любым выпадку ад часоў нашага першадрукара было зроблена як мінімум 5-7 перакладаў. "Мой пераклад – гэта яшчэ адзін, і чым больш такіх перакладаў будзе, тым лепей будзе пачувацца беларуская культура ў свеце", – дадае суразмоўца.

На думку аўтара новага перакладу, гэта самая пяшчотнаэратычная кніга Бібліі застаецца і самым вядомым у свеце гімнам каханню. Ніводны твор не быў выдадзены такую колькасць разоў і на такой колькасці моваў. "Мне падаецца, што людское каханне і любоў Бога да чалавека і чалавека да Бога – гэта з'явы аднаго парадку. Яны адна адну тлумачаць і падтрымліваюць. Нейкая глыбінная і незаўсёды зразумелая сувязь тут ёсць", – кажа Сяргей Шапран.




**Чытайце. Кахайце**

Найбольш складанасцяў пры перакладзе "Песні Песняў" выклікалі словы і з'явы, якія выкарыстоўваюцца ў Бібліі адзін раз. Ёсць шмат розных традыцый іх перакладу. Сяргей Шапран карыстаўся адной з найбольш аўтарытэтных даследчыцкіх крыніц – працай амерыканскага біблеіста Марвіна Поўпа "Песня Песняў". "Дзякуючы такім кнігам можна не баяцца штосьці ўпусціць, бо тлумачыцца усё вельмі дэтальна. Праца перакладчыка ў такой сітуацыі – гэта выбраць свой шлях і знайсці вырашэнне, якое найлепш пасуе да беларускай мовы", – распавядае перакладчык.

Новы пераклад "Песні Песняў" не выглядае асучасненым. Аўтар перакладу імкнецца перадаць рэальнае значэнне, хоць яно часам вельмі складанае для разумення сучаснаму чалавеку. Суразмоўца падзяліўся, што ці не найбольш смелым быў пераклад "Я – пралеска шаронская" ("Песня Песняў" 2,1). Справа ў тым, што ў арыгінале гэтыя словы прамаўляе дзяўчына, а ў рускім сінадальным перакладзе выкарыстоўваецца словазлучэнне ў мужчынскім родзе "Я нарцисс Саронский". "Пасля доўгага даследавання я даведаўся, што адзін з відаў пралескі рос таксама на Блізкім Усходзе, а ў арыгінале там выкарыстоўваецца кветачка з белымі пялёсткамі, якая расце на пяску і ўвесну, у час кароткага цвіцення ў пустыні, а потым хутка памірае", – кажа Сяргей Шупа.

Падчас працы перакладчык ўпэўніўся, што гэты тэкст нашмат глыбейшы, чым падаецца пасля прачытання першы, трэці ці дзясяты разы. Разбіраючыся ў тонкасцях, адкрываеш новую прыгажосць і новыя сэнсы. "Па прачытанні гэтага тэксту таямніца кахання ўсё роўна застаецца неразгаданай, але спробы разгадаць яе не менш важныя за саму разгадку. Чытайце. Кахайце", – падсумоўвае ён.

*Арцём Ткачук*



# Каляндар на студзень 2023

**1** студзеня – урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.

**2** студзеня – успамін св. Базыля Вялікага і Грыгорыя Назіянзскага, біскупаў і доктараў Касцёла.

**6** студзеня – урачыстасць Аб'яўлення Пана (Тры Каралі).

**8** студзеня – свята Хросту Пана.

**17** студзеня – успамін св. Антонія, Абата.

**21** студзеня – успамін св. Агнешкі, панны і мучаніцы.

**24** студзеня – успамін св. Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла.

**25** студзеня – свята Навяртання св. Паўла, апостала.

**26** студзеня – успамін св. Цімафея і Ціта, біскупаў.

**27** студзеня – успамін бл. Юрыя Матулевіча, біскупа.

**28** студзеня – успамін св. Тамаша Аквінскага, святара і доктара Касцёла.

**31** студзеня – успамін св. Яна Боска, святара.

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

## Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце



Catholicnews.by

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – А; 3 – Б; 4 – Б; 5 – В; 6 – А; 7 – А; 8 – Б; 9 – А; 10 – А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Мiсевiч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6408

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.12.2022 г. у 13.10

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь